Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

10 ЛІСТАПАДА 1929 г.

№ 12 (71)

V-ты год выданьня

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929 г.

# ЗЬМЕСТ

---

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР

### пра ўстанаўленьне гранічных расцэнак на загатоўку лясных матарыялаў, вывазку і сплаў драўніны ў сэзоне 1929-30 г.

Адзначаючы нездавальняючае выкананьне пляну дрова-лесазагатовак бягучага аперацыйнага году і значнае падвышэньне дрова-лесазагатовак па пляну на 1929-30 год у параўнаньні з фактычным выкананьнем за 1928-29 год, Эканамічная Нарада пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Запрапанаваць усім дровазагатоўчым арганізацыям своечасова прыступіць на дровазагатовак і асабліва шырока разгарнуць гэту працу ў асеньнюю кампанію з тым, каб у 1-м квартале было загатоўлена не менш 45% ад гадавога заданьня (колькасьць гадавога заданьня 3.420.000 куб. мэтраў) паводле пляну дровазагатовак на 1929-30 г., прынятаму Нарадай пры Сакратарыяце Асобнаўпаўнаважанага СПА 29/VIII 1929 г.

2. Запрапанаваць НК Земляробства безадкладна забясьпечыць лесасечным фондам лесазагатоўшчыкаў на ўсе 100%.

3. Запрапанаваць лесазагатоўчым арганізацыям безадкладна падаць у Дзяржбанк заяўкі на патрэбныя ім на дрова-лесазагатоўкі сродкі і ўстанавіць дэцэнтралізаваны парадак фінансаваньня.

Абавязаць НКФ забесьпячыць НКЗ патрэбнымі сродкамі ў 1-м квартале на работы па дрова-лесазагатоўках.

4. Запрапанаваць акруговым выканаўчым камітэтам у самым тэрміновым парадку прыступіць да ўстанаўленьня праз акр. інспэкцыі гандлю сумесна з прадстаўнікамі зацікаўленых устаноў і прафарганізацый лімітных цэн па дровазагатоўках, вывазцы і сплаву па раёнах.

Працу па ўстанаўленьню лімітных цэн правесьці з такім разьлікам, каб імі лесазагатоўшчыкі маглі кіравацца з пачатку аперацыйнага году.

Устаноўленыя цэны абавязкова павінны ў копіі накіроўвацца Асобнаўпаўнаважанаму Эканамічнай Нарады па дрова-лесазагатоўках.

Устаноўленыя цэны зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх лесазагатоўшчыкаў данае акругі.

Кантроль і нагляд за няўхільным і бязумоўным выкананьнем устаноўленых лімітных цэн ускладаецца на Асобнаўпаўнаважанага Экан. Нарады па дрова-лесазагатоўках, на акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты.

За парушэньне ўстаноўленых лімітных цэн вінаватыя прыцягваюцца да судовае адказнасьці.

5. У мэтах недапушчэньня няўвязак у нормах і расцэнках паміж сумежнымі з РСФСР і УССР раёнамі, а таксама паміж раёнамі сумежных акруг і асабліва ў стыкавых мясцох, прапанаваць акрвыканкомам не пазьней 25 кастрычніка правесьці канчатковае ўзгадненьне норм і расцэнак паміж раёнамі, не дапушчаючы ў іх разрываў, якія маглі-б зьявіцца прычынаю пераходу рабочае сілы з раёнаў з больш нізкімі расцэнкамі ў раёны з павышанай аплатай.

6. Даручыць Асобнаўпаўнаважанаму Экан. Нарады па дрова-лесазагатоўках распрацаваць у 3-дзённы тэрмін па ўзгадненьні з зацікаўле-

нымі органамі нормы выпрацоўкі, вывазкі і нормы хлебафуража на лесазагатоўчыя работы для абавязковага кіраваньня лесазагатоўчых арганізацый.

7. Запрапанаваць НК Працы сваячасова забясьпечыць усіх лесазагатоўшчыкаў патрэбнай рабочай сілай.

Што-ж тычыцца забясьпечаньня гужавой сілаю і парадку задавальненьня ёю запатрабаваньняў лесазагатоўшчыкаў, то Асобнаўпаўнаважаны Экан. Нарады сумесна з НК Працы павінен даваць паказаньні на месцы.

Адначасова для выкананьня праграмы на дрова-лесазагатоўках на 1929-30 г. запрапанаваць усім лесазагатоўчым арганізацыям сумесна з НК Працы і Саюзам сельхозрабочых у 3-дзённы тэрмін прапрацаваць плян мерапрыемстваў па арганізацыі апарату для правільнага падліку, вярбоўкі і разьмеркаваньня рабсілы і сваечасовага забясьпечаньня ёю лесазагатоўшчыкаў у патрэбнай ім колькасьці.

8. Запрапанаваць лесазагатоўчым арганізацыям прапрацаваць і ўнесьці у свае прамфінпляны 1929-30 г. мерапрыемствы па мэханізацыі і рацыяналізацыі дрова-лесазагатовак, сплаву і выгрузкі.

Старшыня Эканамічнае Нарады пры СНК БССР *М. Карклін.*

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнае
Нарады БССР *В. Крывіцкі.*

12 кастрычніка 1929 г.

---

## 2. Пастанова Цэнтральнага Архіўнага Кіраўніцтва, Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### пра забарону продажу архіўных матарыялаў і архіўнай макулатуры.

На падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР за 10 жніўня 1929 г. (пратакол 1929 г. № 11, п. 134) Цэнтральнае Архіўнае Кіраўніцтва, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляюць:

1. Забараніць усім установам, прадпрыемствам, арганізацыям і таварыствам прадаваць архіўны матарыял без дазволу Цэнтральнага Архіўнага Кіраўніцтва альбо яго акруговых органаў.

2. Калі ўстановы, прадпрыемствы, арганізацыі і таварыствы па пэўнаму заданьню альбо ў парадку ўвадзімых „Пералікаў“ вылучаюць архіўную макулатуру, што падлягае ліквідацыі, то гэта макулатура павінна здавацца выключна органам Народнага Камісарыяту Гандлю для скарыстаньня яе на папяровых фабрыках. Продаж архіўнай макулатуры на вольны рынак забараняецца.

3. Асобы, вінаватыя ў парушэньні паказаных вышэй правілаў, будуць прыцягвацца да адказнасьці паводле арт. арт. 197 і 213 Крымінальнага Кодэксу (З. З. БССР 1928 г. № 30, арт. 288).

Загадчык Цэнтральнага Архіўнага
Кіраўніцтва БССР *А. Іодка.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі БССР *П. Валасевіч.*

Нам. Народнага Камісара
Унутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

5 кастрычніка 1929 г.

---

## 3. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра замацаваньне некваліфікаваных рабочых за будаўнічымі арганізацыямі на сэзон 1930 году.

На адмену п. 2 свайго абежніку за 1/VIII 1929 г. № 53 (Бюл. СНК БССР 1929 г., № 9) і паводле паказаньняў НК Працы Саюзу ССР, Народны Камісарыят Працы БССР гэтым растлумачвае:

Выходзячы з таго, што ў сучасны момант зьяўляецца асабліва важнай задачай ня толькі ўтварэньне на будаўніцтве сталага кадру рабсілы, але і ўтварэньне ў першую чаргу гэтага кадру з ліку гарадзкога пралетарыяту, належыць дазваляць будаўнічым арганізацыям замацаваць некваліфікаваных рабочых, але з тым, каб колькасьць некваліфікаваных рабочых з сельскіх мясцовасьцяй у агульным ліку замацаваных некваліфікаваных рабочых складала ня больш 25%.

У адносінах-жа тых будаўнічых работ, якія праводзяцца не ў гарадох, можна дазваляць замацаваньне некваліфікаваных рабочых з сельскіх мясцовасьцяй без устанаўленьня паказанага абмежаваньня. У абодвых выпадках, зразумела, належыць захоўваць п. 6 пастановы НК Працы Саюзу ССР за 16/VII—1929 г. № 225 „Аб арганізацыі сталых кадраў рабсілы“ аб тым, што ні ў якім разе нельга замацоўваць асоб з кулацкай часткі вёскі.

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Старшы Інспэктар па рэгуляваньню рынку працы НКП БССР *С. Мышалаў.*

2 кастрычніка 1929 г.
№ 68.

---

## 4. Абежнік Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра парадак выплаты дапамог па часовай непрацаздольнасьці ў прадпрыемствах і ўстановах, якія перайшлі на бесьперапынны рабочы тыдзень.

Уперад да выданьня спэцыяльнага закону па пытаньні аб выплаце дапамог па часовай непрацаздольнасьці, Н. К. Працы БССР прапануе кіравацца наступным:

1. Вылічэньне разьмеру дзённае дапамогі па ўсіх відах часовай непрацаздольнасьці робіцца, як правіла, выходзячы з заработку па апошняй рабоце за 3 каляндарных месяцы да пачатку месяца непрацаздольнасьці і атрыманых дапамог па часовай непрацаздольнасьці за той самы пэрыяд. Агульная сума заработку за паказаны пэрыяд дзеліцца на 3 і атрыманая сярэдня-месячная заработная плата дзеліцца на колькасьць рабочых дзён у месяцы непрацаздольнасьці, устаноўленых паводле графіку для гэтае асобы.

2. У адносінах да асоб, якія працавалі менш 3-х, але ня менш 2-х каляндарных месяцаў, сярэдня-месячная заработная плата вылічаецца з заработку за 2 поўных каляндарных месяцы да пачатку месяца непрацаздольнасьці і дапамог па часовай непрацаздольнасьці, атрыманых за той самы пэрыяд. Разьмер дзённае дапамогі вызначаецца праз дзяленьне сярэдняга месячнага заработку на ўстаноўлены лік рабочых дзён паводле графіку для данай асобы ў месяц непрацаздольнасьці.

3. Для асоб, якія працавалі на апошняй рабоце ня менш аднаго каляндарнага месяца да пачатку месяца непрацаздольнасьці, разьмер дзённае дапамогі вылічаецца праз дзяленьне заработку і атрыманых

дапамог за адзін поўны каляндарны месяц да пачатку месяца непрацаздольнасьці на ўстаноўленую колькасьць рабочых дзён паводле графіку для гэтае асобы ў месяцы непрацаздольнасьці.

4. Асобам, якія атрымліваюць заработную плату не пачасова, калі яны працавалі да пачатку месяца непрацаздольнасьці на апошняй рабоце менш каляндарнага месяца, разьмер дзённае дапамогі вылічаецца праз дзяленьне выяўленага заработку з дня паступленьня на работу да наступленьня працаздольнасьці на колькасьць фактычна прапрацаваных дзён за гэты-ж пэрыяд. Дапамога ў такім разе выплачваецца ў разьмеры ня звыш палутарнай тарыфнай стаўкі.

5. Для асоб, якія атрымліваюць пачасовую плату і не прапрацавалі поўны каляндарны месяц да пачатку месяца непрацаздольнасьці, дзённая дапамога вылічаецца праз дзяленьне тарыфнай стаўкі ў месяц непрацаздольнасьці на колькасьць устаноўленых рабочых дзён паводле графіку для гэтае асобы ў месяц непрацаздольнасьці.

6. Вылічэньне разьмеру дзённае дапамогі для асоб, якія па роду сваей прафэсіі сыстэматычна пераходзяць з аднэй работы на другую (будаўнікі, грузчыкі) робіцца, выходзячы з сум іх заработку на ўсіх работах і атрыманых дапамог па часовай непрацаздольнасьці і па беспрацоўю за 2 месяцы, папярэднія дню наступленьня непрацаздольнасьці.

Атрыманая такім чынам сума заработку і дапамог дзеліцца на два, і сярэдня-месячная зарплата дзеліцца на колькасьць рабочых дзён, устаноўленых па графіку для застрахаванага ў месяцы часовай непрацаздольнасьці. Пры гэтым разьліку падзённая дапамога выплачваецца ў разьмеры ня ніжэй падзённае тарыфнае стаўкі.

7. Калі непрацаздольнасьць цягнецца ў розных каляндарных месяцах, то дзённы разьмер дапамогі вызначаецца для кожнага месяца асобна праз дзяленьне сярэдня-месячнай зарплаты на колькасьць рабочых дзён таго месяца, дні якога аплачваюцца дапамогай.

8. Агульная сума дапамогі вылічаецца праз множаньне дзённае дапамогі на колькасьць прапушчаных у сувязі з непрацаздольнасьцю дзён, у якія па графіку трэба было працаваць данаму застрахаванаму.

9. Усе прадпрыемствы і ўстановы, якія перайшлі на бесьперапынны рабочы тыдзень, павінны адзначаць у больнічных лістках: а) дату выхадных дзён, якія павінен быў мець застрахаваны за час непрацаздольнасьці, і б) колькасьць прапрацованых дзён для асоб, паказаных у арт. 6.

Нам. Народнага Камісара Працы
і Начгалоўсацстраху БССР *П. Саламонаў.*

Старшы Інспэктар *В. Амстэрдам.*

5 кастрычніка 1929 г.
№ 68.

---

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра няшчасны выпадак на заводзе „Камінтэрн".

13 чэрвеня 1929 году на заводзе „Камінтэрн" у г. Барысаве здарыўся няшчасны выпадак з рабочым заводу т. Статкевічам.

Няшчасны выпадак здарыўся на верхняй завадзкой перадатачнай трансмісіі ў час надзяваньня т. Статкевічам пасу палкай на хаду машыны. Палка папала ў спіцы шківу і другім канцом ударыла Статкевіча ў жывот, у выніку чаго праз некалькі гадзін ён памёр.

Органы працы, у задачы якіх ўваходзіць прыняцьце рашучых мер барацьбы з няшчаснымі выпадкамі, а таксама выпрацоўка мерапрыемстваў па папярэджваньні іх, павінна праяўляць максымум гібкасьці,

энэргіі і ўвагі ў справе абароны і захаваньня жыцьця і здароўя і аховы працы рабочых.

У сапраўднасьці-ж у няшчасным здарэньні з т. Статкевічам, якое было недастаткова абсьледвана на месцы Барысаўскай Інспэкцыяй Працы і Тэхнічным Інспэктарам Менскае акругі, Менская Акруговая Інспэкцыя Працы праявіла нядбайнасьць да вынікаў абсьледваньня, дачы прадпісаньняў і прыцягненьня вінаватых да адказнасьці. Толькі праз 2 месяцы Акруговая Інспэкцыя Працы накіравала заводу „Камінтэрн" прадпісаньне па няшчаснаму выпадку са Статкевічам і нават тады таксама ня ўжыла мер спагнаньня ў адносінах асоб, якія дапусьцілі валакіту ў выкананьні на працягу 2-х месяцаў.

На падставе пастановы НК РСІ за 26/IX 1929 г. НК Працы была накіравана ў Барысаў спэцыяльная камісія для дэтальнага азнаямленьня са становішчам аховы працы і тэхнікай бясьпекі і абсьледваньня няшчасных выпадкаў на заводзе „Камінтэрн". У выніку работы камісіі НК Працы пастанаўляе:

1. Прапановы камісіі зацьвердзіць.

2. Прапанаваць трэсту Лясбел безадкладна прыступіць да выкананьня тае часткі прапаноў, якія тычацца яго кампэтэнцыі, а заводакіраўніцтву заводу „Камінтэрн" безадкладна прыступіць да выкананьня астатніх пунктаў прапаноў камісіі.

3. Заводакіраўніцтву заводу „Камінтэрн" вывесіць ва ўсіх цэхах і аддзяленьнях копіі прапаноў камісіі, каб рабочыя мелі магчымасьць ажыцьцяўляць штодзённы масавы нагляд за іх выкананьнем.

4. За дапушчаную Менскай Інспэкцыяй Працы нядбайнасьць да вынікаў абсьледваньня няшчаснага выпадку пасьля прыезду тэхнічнага інспэктара з Барысава, аб'явіць вымову Акруговаму Інспэктару Працы тав. Сакалінскаму.

5. За няпрыняцьце мер спагнаньня ў адносінах асоб, якія дапусьцілі валакіту ў выкананьні на працягу 2-х месяцаў прапаноў па абсьледваньні, Інспэктару Працы тав. Дыскінай паставіць на від.

6. За дапушчаную нядбайнасьць, незацікаўленасьць і няпрыняцьце рашучых мер па тэхніцы бясьпекі пасьля няшчаснага здарэньня зьняць з работы тэхнічнага інспэктара т. Балясінскага, лічачы немагчымым скарыстаньне яго ў далейшым на рабоце тэхнічнага інспэктара і адказнага па тэхніцы бясьпекі на буйных прадпрыёмствах.

7. Згадзіцца з зьняцьцем з работы Барысаўскага Інспэктара Працы т. Мілюкова.

8. Менскай Акруговай Інспэкцыі Працы праз месяц праверыць выканьне ўсіх прапаноў па заводу „Камінтэрн" і аб выніках паведаміць НКП БССР.

9. Справу пра дрэнную пастаноўку тэхнікі бясьпекі і матарыял аб выцякаючых адсюль прычынах здарэньня няшчасных выпадкаў, у пасобку з т.т. Статкевічам, Шамалукам і іншымі, у адносінах вінаватых з боку заводакіраўніцтва і тэхнічнага пэрсаналу заводу „Камінтэрн" Менскай Інспэкцыі Працы перадаць у суд.

10. Пастанову апублікаваць у друку і аб'явіць яе па лініі Інспэкцыі Працы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

10 кастрычніка 1929 г.

---

## 6. Абежнік народных камісарыятаў Працы і Юстыцыі БССР

### пра парадак ужываньня арт. 92 і п. „ж“ арт. 47 Кодэксу аб Працы.

*Інспэктарам працы, акруговым пракурорам і акруговым судам.*

З прычыны маючыхся выпадкаў няправільнага ўжываньня арт. 92 і п. „ж“ арт. 47 Кодэксу аб Працы, народныя камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР растлумачваюць:

Арт. 92 Код. аб Працы дае рабочым і служачым, якія часова страцілі працаздольнасьць, права вярнуцца на сваё месца ва ўстанове, альбо прадпрыемстве, у якіх яны працавалі, на працягу 4-х месяцаў, пры чым у выпадку няпрыходу нанятага на працу па зыходзе гэтага тэрміну працоўны дагавор, паводле п. „ж“ арт. 47 Код. аб Працы, можа быць скасаваны.

Як відаць з запісанага вышэй, скасаваньне працоўнага дагавору з прычыны няпрыходу на працу часова страціўшых працаздольнасьць рабочага або служачага па зыходзе паказанага тэрміну, зьяўляецца правам, але не абавязкам наймальніка, якім правам ён можа карыстацца толькі ў інтарэсах вытворчасьці. Таму, у тых выпадках, калі гэтага роду няпрыход нанятага на працу звыш вызначанага тэрміну ня шкодзіць рабоце прадпрыемства ці ўстановы і тлумачыцца больш-менш важнымі прычынамі, няма падставы для строга-фармальнага, наўпрэкі інтарэсам працоўных, ужываньня тэрмінаў, паказаных у арт. 92 і п. „ж“ арт. 47 Код. аб Працы, асабліва ў такіх выпадках, як няпрыход у тэрмін з курортнага лячэньня з прычыны затрыманьня ў дарозе па адлегласьці месца працы ад месца лячэньня.

Запісаным народныя камісарыяты Працы і Юстыцыі БССР прапануюць кіравацца пры вырашэньні працоўных спраў.

З выданьнем гэтага абежніку касуецца абежнік НКП і НКЮ БССР за 4 студзеня 1926 году № 1 „Пра ўмовы ўжываньня п. „ж“ арт. 47 Код. аб Працы. (Бюл. СНК 1926, № 1).

Народны Камісар Працы БССР *М. Гнілякевіч.*

Народны Камісар Юстыцыі БССР *А. Сташэўскі.*

17 кастрычніка 1929 г.
№ 71.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра ўтварэньне ахоўнай паласы навакол Дзяржаўнага Паляўнічага Запаведніку.

Для лепшай аховы і наданьня належнай цішыні для размнажэньня паляўнічай фаўны у Дзяржаўным Паляўнічым Заведніку Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе ўтварыць ахоўную паласу навакол Запаведніку з забаронай у ёй паляваньня ў наступных межах:

Пачатковы пункт мяст. Мсьціж. З Мсьціжа па дарозе цераз вёскі: Ніўкі, Гарэлае, Воўча і далей па бальшаку да Бягомля. Ад Бягомля па таму-ж бальшаку праз вёску Берасьнёўку, каля цэркаўкі, каля двара „Асавіны“, па дарозе цераз Лінскае поле (вур. Вярхоўе-Выскладніца) да сяла Бярэзіна; з сяла Бярэзіна па дарозе да Старога Сяла, далей па зімовай дарозе праз раку Бярэзіну на вёску Атрубок. З Атрубка па

дарозе да вёскі Вялікая-Чарніца і далей па бальшаку да вёскі Лісіна, адкуль дарогаю да хут. Брады-Смалярны бор да вёскі Пушанкі і далей па бальшаку да вёскі Пуцілкавічы (па дачах Бягомльскага лясьніцтва). Ад Пуцілкавіч па дарозе цераз хутар Ліпнікі да Любова-Каменка, далей па граніцы Бягомльскага і Лепельскага лясьніцтваў да ракі Сяргуча, адтуль уніз па рацэ Сяргучу да возера Ольшыца (уключаючы гэта возера ў межы Заказьніку) і далей па ўсходняму берагу возера Ольшыца і рэчкі Прыдушніцы да ўцёку яе ў возера Плаў'е і па ўсходняму берагу возера Плаў'я да граніцы Сьвяцкага лясьніцтва з Лепельскім. Па граніцы Сьвяцкага з Лепельскім лясьніцтвамі да слупа быўшых 3-х абшарнікаў (Іванова, Ціханавецкага і Спасоўскага), адтуль па граніцы паміж лясоў быўш. абшарнікаў (Ціханавецкага і Іванова) да Бярэзінскага каналу і ўніз па каналу да шлюзу № 6. Ад шлюзу № 6 па дарозе, што з тэлефоннымі правадамі, праз рэчку Кесту, каля хутара Лоўкі, а там уніз па дарозе да хутара Сокала. Ад х. Сокала па тэй-жа дарозе да вур. Капесі праз х. Рэчкі на Ведзяўшчыну. З вёскі Ведзяўшчыны па дарозе цераз х. Стайчаўку (Язэпа Градзюшкі) і далей па зімовай дарозе цераз часьцік да вёскі Стайчаўкі. З вёскі Стайчайкі па зімовай дарозе да х. Базыльяншчына, а адтуль па старой пазыцыі да дарогі, якая ідзе з Вялікай Ракі ў Латнюлічы (вур. Баб'і-Лог), далей па тэй-жа самай пазыцыі да вёскі Уцеха, а адтуль па дарозе на х. Ізабеліна, Жортай, Жартайку, пасёлак Люцец цераз вур. „Добрая Вада“ да вёскі Крацевіч. З Крацевіч па дарозе цераз канец Дубовага Логу да засьценка Белавіна, а з Белавіна дарогаю да граніцы лясоў Вільлянаўскай дачы Стара-Барысаўскага лясьніцтва і па вобрубу гэтага лесу да х. Задні Мост. З Задняга Маста ўніз па рэчцы Качцы да Хаўхолецкага млыну. Ад Хаўхолецкага млыну па дарозе цераз вёску Хаўхолец каля Рагацкага могільніку да вёскі Рагаткі, а там упоперак вёскі дарогаю на зьнішчаны ваенны мост праз рэчку Бярэзіну і далей па грэблі да двара Скупліна. З двара Скупліна па дарозе цераз вёску Корсакавічы, Будзеніцкая Рудня, двор Будзенічы, вёску Бажадары і м. Мсьціж.

Загадчыку Дзяржаўнага Паляўнічага Запаведніку разам з лясьнічымі навакольных лясьніцтваў адвесьці ў натуры вызначаную паласу з пастаноўкай гаспадарчым парадкам па дарогах, па мяжы, паказальных знакаў сіламі тых лясьніцтваў, па тэрыторыі якіх праходзіць ахоўная паласа.

Лясной адміністрацыі і варце Запаведніку, а таксама навакольных лясьніцтваў, па тэрыторыі якіх праходзіць ахоўная паласа, строга наглядаць за тым, каб у паказанай паласе ня было браканьерства.

Арганізацыя аблаў на 4-ногіх драпежнікаў у ахоўнай паласе ўскладаецца на адміністрацыю Запаведніка пры непасрэдным ўдзеле ў гэтай справе лясной варты і адміністрацыі лясьніцтваў, на тэрыторыі якіх арганізуецца аблава.

Індывідуальны адстрэл 4-ногіх драпежнікаў, драпежнікаў—птушак і брадзячых сабак павінен весьціся лясной вартай лясьніцтваў па абходах, цераз якія праходзіць ахоўная паласа.

Загадчыку Дзяржаўнага Паляўнічага Запаведніку абвясьціць мясцовыя сельскія ячэйкі паляўнічай арганізацыі пра ўтварэньне ахоўнай паласы.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

За Кіраўніка Лясной Групы НКЗ БССР *Пятрушын.*

7 кастрычніка 1929 г.

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

**пра скасаваньне супярэчнасьцяй у абежніках НКЗ БССР за 18 мая 1928 г. № 81 і за 22 ліпеня 1927 г. № 28 у адносінах да абежніку НКЗ БССР за 26 верасьня 1929 г. № 16.**

У дадатак да абежніку за 26 верасьня г. г. № 16, Народны Камісарыят Земляробства БССР паведамляе, што п. „б“ арт. 2 абежніку НКЗ БССР за 18 мая 1929 г. № 8 і ўсё тое, што ў абежніку НКЗ БССР за 22 ліпеня 1927 г. № 28 супярэчыць абежніку № 16 за гэты год, з выданьнем гэтага абежніку (за 12 кастрычніка 1929 г. № 18) скасоўваецца.

Чыннасьць абежніку № 16 не распаўсюджваецца на ўсе тыя земляўпарадчыя справы, па якіх складзеныя да моманту выданьня гэтага абежніку праекты перанесены ў натуру.

Народны Камісарыят Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

За Кіраўніка Земляўпарадчай групы НКЗ БССР *Гусман.*

12 кастрычніка 1929 г.
№ 18.

---

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

**пра забясьпечаньне інтарэсаў бядняцкіх гаспадарак пры правядзеньні земляўпарадкаваньня і пры ажыцьцяўленьні зацьверджаных земляўпарадчых праектаў.**

*Усім акруговым зямельным аддзелам, акруговым зямельным камісіям, райвыканкомам і раённым зямельным камісіям.*

Земляўпарадкаваньне, якое праводзіцца зямельнымі органамі, павінна мець сваёй асноўнай мэтай разьвіцьцё сацыялістычных форм землякарыстаньня (савецкіх і калякгыўных гаспадарак) і ўздым гаспадарчага і культурнага дабрабыту бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак.

Для дасягненьня гэтых задач неабходна пэўная абарона інтарэсаў беднаты як пры самым правядзеньні земляўпарадкаваньня, так і пасьля таго—пры правядзеньні ў жыцьцё зацьверджаных земляўпарадчых праектаў, што ў практычнай працы зямельных органаў (асабліва раённых) незаўсёды ажыцьцяўлялася ў належна поўнай меры.

Выходзячы з паказаных асноўных задач і ў мэтах больш поўнага і выразнага забясьпечаньня інтарэсаў бядняцкіх гаспадарак, Народны Камісарыят Земляробства прапануе прыняць да кіраваньня наступнае:

1. Пры ўнутрывясковым земляўпарадкаваньні, зьвязаным з неабходнасьцю расьсяленьня часткі гаспадарак, належыць прымаць захады да таго, каб бяднейшыя і, наогул, маламоцныя двары ўвайшлі ў склад калякгываў, альбо былі надзелены зямлёй у тых пасёлках, якія створаны на старых сядзібных мясцох, без пераносу сваіх будынкаў.

2. У тых-жа выпадках, калі існуючае разьмяшчэньне сядзіб (да земляўпарадкаваньня) і гаспадарча-тэхнічныя запатрабаваньні земляўпарадкаваньня не даюць магчымасьці пакінуць на старых сядзібных мясцох некаторыя двары з ліку маламоцных, альбо гэтыя двары самі жадаюць перасяліцца на новыя месцы, дык яны павінны быць разьмешчаны ў тых пасёлках, якія маюць лепшыя па сваёй якасьці землі і знаходзяцца як найбліжэй да старых сядзіб, з тым, каб перанос будынкаў на гэтыя пасёлкі быў зьвязан з найменшымі цяжкасьцямі.

3. Для стварэньня ўмоў найбольш лёгкага пераходу бядняцкіх і маламоцна-серадняцкіх гаспадарак у далейшым да каляктыўных форм землякарыстаньня, трэба групаваць гэтыя двары ў пасёлкі пераважна з серадняцкімі дварамі, найбольш блізкімі па сацыяльна-палітычнаму стану.

Найбольш карысна ў гэтых-жа мэтах разьмяшчаць расьсяляючыяся бядняцкія і маламоцна-серадняцкія двары ў тыя пасёлкі, якія знаходзяцца сумежна з каляктыўнымі альбо савецкімі гаспадаркамі, што дасьць ім магчымасьць належнага падтрыманьня з боку апошніх.

4. Калі паасобныя бядняцкія ці маламоцна-серадняцкія двары ня могуць быць пакінуты ў выніку земляўпарадкаваньня на сваіх старых сядзібах, альбо самі жадаюць перасяліцца на новыя месцы (п. 2), то больш заможныя двары, якія па земляўпарадча-тэхнічных умовах атрымаюць зямлю ў сядзібных пасёлках без пераносу сваіх асноўных будынкаў, абавязаны аказаць першым (расьсяляючымся гаспадаркам) дапамогу ў пераносе іх будынкаў на новыя месцы; дапамога гэта можа быць грашовай альбо натуральнай (г. зн. асабістай працай, фурманкамі, матарыялам для будынкаў і г. д.).

5. Пытаньні аб пакіданьні тых ці іншых гаспадарак на старых сядзібных мясцох, альбо аб надзяленьні іх зямлёй у інш. пасёлках, а таксама аб аказаньні дапамогі бяднейшым гаспадаркам з боку больш заможных, вырашаюцца земляўпарадчыкамі пры складаньні праектаў з абавязковым удзелам прадстаўніка сельсавету, прадстаўніка камітэту сялянск. тав. узаемадапамогі і, па магчымасьці, прадстаўніка райвыканкому.

Намечанае паказанымі вышэй удзельнікамі працы вырашэньне даных пытаньняў абвяшчаецца зацікаўленым грамадзянам на агульным сходзе ў часе самых работ (да таго, як земляўпарадчы праект будзе канчаткова складзен і будзе прад'яўлен насельніцтву).

6. У тых выпадках, калі на старых сядзібных мясцох вёскі і прысядзібных землях арганізуецца каляктыўная гаспадарка і ў зьвязку з гэтым будуць вымушаны перасяліцца на новыя месцы некаторыя бядняцкія гаспадаркі, якія не згадзіліся ўвайсьці ў склад каляктыву, дык неабходна дагаварыцца з апошнім аб дапамозе найбольш слабым перасяляючымся бядняцкім гаспадаркам (зусім слаба забясьпечаным працоўнай сілай) у пераносе іх будынкаў.

Дапамога гэта з боку каляктыўнай гаспадаркі можа быць выключна натуральнай і павінна быць суразьмерана з моцнасьцю яе (як у адносіне складу, так і ў адносіне забясьпечанасьці яе цягавой сілай) і ва ўсякім разе не павінна быць гаспадарча-цяжкай для калгасу.

7. Пры правядзеньні гаспадарчага ўпарадкаваньня ў пасёлках па зацьверджанаму земляўпарадчаму праекту, а таксама пры ўпарадкаваньні вёскі на месцы (без расьсяленьня) бядняцкім і маламоцна-серадняцкім гаспадаркам палосы ў агульных палёх севазвароту павінны адводзіцца абавязкова з падлікам найбольшых выгад для гэтых гаспадарак: найбольш блізкія да іх сядзібных вучасткаў, з найлепшым доступам да іх, лепшыя па якасьці і г. д.

8. Пры выкананьні справы ў натуры земляўпарадчык абавязан прыняць неабходныя меры да таго, каб да прад'яўленьня земляўпарадчага праекту насельніцтву і разгледжаньня яго (праекту) у раённай зямельнай камісіі—былі ўжо вырашаны належнымі камісіямі і ўстановамі пытаньні аб аслабаненьні бяднейшага насельніцтва ад платы за земляўпарадкаваньне і аб бясплатным ці льготным водпуску лесу тым бядняцкім і маламоцна-серадняцкім гаспадаркам, якія расьсяляюцца

ў зьвязку з земляўпарадкаваньнем, альбо маюць патрэбу рамантаваць свае будынкі.

9. Па кожнай справе аб упарадкаваньні зямель працоўнага карыстаньня альбо запаснага фонду, які перадаецца ў карыстаньне сялянства, выканаўца павінен скласьці, у дадатак да асноўнага земляўпарадчага праекту, асобны акт па раней дадзенай друкаванай форме: акт гэты прад'яўляецца зацікаўленым грамадзянам адначасова з прад'яўленьнем праекту групавога земляўпарадкаваньня і копіі яго (акту) перадаюцца ў мясцовы сельсавет і раённы выканаўчы камітэт.

10. Разьмер дапамогі кожнай з расьсяляючыхся маламоцных гаспадарак, а таксама з боку якіх гаспадарак і ў які тэрмін павінна быць аказана гэтая дапамога кожнай паасобку маламоцнай гаспадарцы—павінна быць вызначана ў дадатковым акце, а ў пісьмовым земляўпарадчым праекце і ў пастанове райземкамісіі аб яго зацьверджаньні павінна быць ссылка на паказаны дадатковы акт.

Вызначаная натуральнымі відамі дапамога па пераносу будынкаў павінна быць таксама пераведзена па грошы для таго, каб, з грамадзяніна, які адмовіцца ўпасьледку выканаць узяты на сябе альбо ўскладзены на яго па зацьверджанаму праекту абавязак, магчыма было сыскаць гэтую дапамогу грашыма.

11. Для поўнага забясьпечаньня інтарэсаў бядняцкіх і маламоцна-серадняцкіх гаспадарак пры правядзеньні ў жыцьцё зацьверджаных праектаў земляўпарадкаваньня ў працягу 2-х тыдняў пасьля заканчэньня работ па гаспадарчаму ўпарадкаваньню пасёлкаў, камісія ў складзе старшыні сельсавету, агранома, прадстаўніка камітэту сялянскага т-ва ўземадапамогі і прадстаўніка крэдытнай капярацыі, з удзелам упаўнаважаных ад насельніцтва, высьвятляе разьмер тэй крэдытнай дапамогі, якую патрэбна аказаць гаспадаркам у зьвязку з праведзеным земляўпарадкаваньнем—на набыцьцё будаўнічага лесаматарыялу, насеньня (сартавога і траў), штучных угнаеньняў, сельска - гаспадарчых машын і прыладаў, жывога інвэнтару, а таксама на правядзеньне мэліарацыйных работ, калі апошнія патрэбны.

12. У выніку працы камісіі, паказанай у папярэднім пункце, складаецца ў трох паасобніках ведамасьць падлягаючых крэдытаваньню гаспадарак, прычым агульная сума крэдыту па гэтай ведамасьці на кожнае земляўпарадкаванае паселішча павінна быць прыблізна суразьмерна з сапраўднымі магчымасьцямі мясцовай крэдытнай установы. Першы паасобнік ведамасьці перадаецца мясцовай крэдытнай установе, другі—застаецца ў сельсавеце і трэці—перасылаецца ў РВК для нагляду за рэалізацыяй крэдытнай дапамогі.

Маючы на ўвазе, што разьмер крэдытнай дапамогі абмежаваны па кожнаму раёну вызначанай сумай, камісія павінна паказаць у ведамасьці чарговасьць прадстаўленьня крэдыту паасобным гаспадаркам. Пры недахопе пазычковага крэдыту, ён не павінен распыляцца дробнымі сумамі, а выдавацца па чарзе, устаноўленай паказанай ведамасьцю.

13. Зямельныя часткі РВК абавязаны групаваць у сябе ўсе акты аб забясьпечаньні інтарэсаў бядняцкіх гаспадарак па земляўпарадкаваных вёсках, а таксама ведамасьці на крэдытаваньне, і ня менш як раз у тры месяцы дакладваць Прэзыдыуму РВК аб выкананьні намечаных у актах мерапрыемстваў.

Раённыя выканаўчыя камітэты па дакладу загадчыка райземчасткі прымаюць неабходныя меры да поўнага ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў, накіраваных да забясьпечаньня інтарэсаў беднаты пры правядзеньні ў жыцьцё зацьверджаных земляўпарадчых праектаў.

14. У пачатку земляўпарадчых работ выканаўцамі пры ўдзеле прадстаўніка камітэту сялянскага т-ва ўзаемадапамогі і ўпаўнаважаных ад насельніцтва складаецца асобны падворна-маемасны сьпісак земляўпарадкаваных грамадзян (сьпісак сацыяльнага складу вёскі), якім належыць кіравацца ў далейшым пры вырашэньні пытаньняў аб укамплектаваньні сядзібнага пасёлку і інш. уноў ствараемых землякарыстаньняў, аб дапамозе расьсяляючымся гаспадаркам і г. д.

Сьпісак гэты павінен быць зацьверджан сельскім саветам.

Абежнік гэты павінен быць безадкладна распаўсюджан сярод усіх зямельных працаўнікоў і сельсаветаў.

Адначасна адмяняецца распараджэньне Адмэліазему НКЗ за 16 жніўня 1928 г. № 12952.

Дадатак: Форма акту, што складаецца паводле п. 9, форма падворна-маемаснага сьпіску і форма ведамасьці на пазычковы крэдыт.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

Кіраўнік Земляўпарадчай Групы НКЗ БССР *Вашчыла-Вірын.*

17 жніўня 1929 г.
№ 11.

---

## 10. Загад па Народнаму Камісарыяту Земляробства БССР

**пра скасаваньне абежнікаў, інструкцый, тлумачэньняў і інш., якія страцілі сілу, пра перапрацоўку тых, у якія павінны быць унесены зьмены або дапаўненьні і пра складаньне праектаў пастаноў аб скасаваньні або зьмене пастаноў заканадаўчых органаў.**

У дадатак да загаду № 97 для далейшага прыстасаваньня ўсіх ведамсьцьвенных распараджэньняў (інструкцый, абежнікаў, тлумачэньняў і інш.) да належнага напрамку сельска-гаспадарчай, зямельнай і лясной палітыкі НКЗ БССР па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі загадваю:

1. Усе распараджэньні, паказаныя ў далучаным да гэтага сьпісе, лічыць страціўшымі сілу, аб чым паведаміць усе групы НКЗ, акруговыя зямельныя аддзелы і апублікаваць у Бюлетэні СНК БССР.

2. Кіраўнікам груп пад асабістую адказнасьць у 2-х тыднёвы тэрмін:

а) скончыць перапрацоўку тых абежнікаў, інструкцый і інш., у якія павінны быць унесены тыя або іншыя зьмены ці дапаўненьні і праз юрысконсульта НКЗ падаць мне на зацьверджаньне;

б) скласьці праекты пастаноў аб скасаваньні або зьмене пастаноў заканадаўчых органаў, якія разыходзяцца з праводзімым курсам зямельнай палітыкі.

3. Юрысконсульту НКЗ тав. Івіцкаму праз два тыдні далажыць мне аб выкананьні гэтага загаду.

Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

16 кастрычніка 1929 г.
№ 7.

---

*Дадатак.*

# СЬПІС

## абежнікаў, інструкцый і інш. распараджэньняў па Народнаму Камісарыяту Земляробства, якія страцілі сілу.

| №№ п-ч. | Дата выданьня | №№ | ЗЬМЕСТ | Дзе апублікавана |
|---|---|---|---|---|
| | | | **1923 г.** | |
| 1 | 24-IV | 11 | О правах на землепользование безвестно отсутствующих | С. У. БССР № 7. ст. 65. |
| | | | **1924 г.** | |
| 2 | 7-V | | Об участии агрономического персонала при землеустройстве на территории БССР. | |
| 3 | 2-IX | 36 | Об образовательном цензе и практическом стаже для окружных работников по госземимуществу. | |
| 4 | 20-X | | О выделении ГЗИ, подлежащего передаче РИК-ам в трудовое пользование. | |
| 5 | 28-X | 439 | О мельницах б. ранее нетрудового пользования, находящихся вне городской черты. | |
| 6 | 30-X | | Инструкция Окр. Завед. ГЗИ. | |
| 7 | 16-VII | 8385 | О ведении лесокультурной книги. | |
| | | | **1925 г.** | |
| 8 | 8-I | 6740 | О предоставлении права РИК-ам продаваць малоценные постройки. | |
| 9 | 12-I | 30837 | О назначении торгов на вновь передаваемое в аренду госзем имущество за 2—3 мес. до окончания срока предыдущего договора. | |
| 10 | 24-I | 8253 | О порядке исключения с учета некоторых категорий усадеб с постройками. | |
| 11 | 30-I | 8880 | О пересмотре всех договоров на сданное в арендное пользование госземимущество. | |
| 12 | 15-IV | 17823 | О праве РИК'ов заключать договора на все госземимущество, переданное в их распоряжение. | |
| 13 | 15-IV | | О порядке производства работ по распределению между безземельными и малоземельными гражданами запасного фонда. | |
| 14 | 5-V | 20027 | О передаче в трудовое пользование садов до 2 десят. | |
| 15 | 13-V | | О культурно-показательных хозяйствах БССР. | Бюл. СНК № 4. |
| 16 | 20-VII | 27285 | О порядке компенсирования за неиспользован. затраты, вложенные в землю, переходящую при обрезке другим землепользователям. | |
| 17 | 15-IV | 17747 | Об оценке земельных угодий. | |

| №№ п-ч. | Дата выданьня | №№ | ЗЬМЕСТ | Дзе апублікавана. |
|---|---|---|---|---|
| 18 | 11-VIII | | О производстве расценки земель при землеустройстве. | Павінен быць перапрацаваны. Бюл. СНК № 4. |
| 19 | 27-VIII | 29 | Об аренде земли. | " |
| 20 | 13-VIII | 20 | Об оплате Белсельтрестом работ по отграничению трестированных совхозов. | |
| 21 | 2-IX | 30 | Об отводе земли районным исполнительным комитетам. | Бюл. СНК № 4. |
| 22 | 24-VIII | 31792 | Об оценке земельных угодий. | |
| 23 | 8-IX | | Примерный договор на сдачу в аренду озер. | |
| 24 | 17-IX | 31 | О производстве работ при земельно-хозяйственном устройстве землепользований. | Бюл. СНК № 6. |
| 25 | 28-IX | 163 | Абежнік аб аслабаненьні ад уплаты арэнды за 1925 г. за вучасткі, пераданыя ў Земфонд. | |
| 26 | 2-IX | 147 | Абежнік аб передачы сялянскіх лясоў у лясы м.-зн. і аб кампэнсацыі за гэткае пры застаўленьні іх у дзяржлесфондзе | |
| 27 | 30-X | 5 | Абежнік аб хуткай передачы лясн. плошчаў у лясы м. зн. і ў земфонд. | |
| 28 | 22-XII | 199 | Аб адводзе лесасек у лясох м. зн. | |
| | | | **1926 г.** | |
| 29 | 2-I | | О порядке и условиях обращения земель трудового пользования под несельско-хоз. промыслы и производства. | Бюл. СНК № 1. |
| 30 | 9-II | 17 | Аб адводзе лесасек у лясох мясцовага значэньня. | |
| 31 | 8-III | 31 | Абежнік аб спыненьні абсьледваньня плошчаў для передачы іх у лясы м. зн. і ў земфонд. | |
| 32 | 1-IV | 10 | О порядке подготовки землеустроительных дел. | |
| 33 | 10-IV | 47 | Абежнік аб выпраўленьні няправільнасьцяй пры перадачах лясоў. | |
| 34 | 7-IV | 8888 | О ликвидации садов б. нетрудового пользования из состава госземимуществ, площадью до 2-х дес. | Бюл. СНК № 9. |
| 35 | 30-V | 55 | Аб водпуску лесу сялянству пры землябудаўніцтве | Бюл. СНК № 6. |
| 36 | 17-VI | 15823 | Директивы по составлению операц. планов. | |
| 37 | 19-VI | 16 | О формах землепользования. | Бюл. СНК № 10. |
| 38 | 10-VII | 15 | Абежнік аб спыненьні передачы лясных плошчаў у земфонд. | Бюл. СНК № 1. |

| №№ п-ч. | Дата выкананьня | №№ | ЗЬМЕСТ | Дзе апублікавана |
|---|---|---|---|---|
| 39 | 15-VII | | Інструкцыя для вучастковага вэтпэрсаналу. | Бюл. СНК № 6. |
| 40 | 20-VII | 5 | Об устойчивости трудового землепользования. | Бюл. СНК № 10. |
| 41 | 22-VII | 18 | О порядке проведения работ по земленаделению. | Бюл. СНК № 10. |
| 42 | 5-VII | 69 | Абежнік АКВК і Кір. Лясамі аб зямельных вучастках у лясн. дачах, знаходзячыхся ў арэндзе. | Бюл. СНК № 11. |
| 43 | 28-VIII | 22261 | Об утверждении землеустр. проектов на участки из состава ГЗИ, предоставленных в постоянное пользование земель. | |
| 44 | 5-X | 26577 | О пересмотре состава ГЗИ и передаче в трудовое пользование земель. | |
| 45 | 16-X | 27339 | О порядке составления годового отчета. | |
| | | | **1927 г.** | |
| 46 | 20-I | 44 | О порядке окончания землеустр. дел, выполненых до 1 января 1925 г. | Бюл. СНК № 4. |
| 47 | 5-III | 16 | Об изменении порядка проведения работ по земленаделению. | Бюл. СНК № 8. |
| 48 | 28-IV | 23 | Об увязке землеустр. мероприятий с хоз. устройством населения. | Бюл. СНК № 9. |
| 49 | 8-III | 22432 | Абежнік аб парадку перадачы свабодн. вуч. лясное плошчы. | |
| 50 | 2-V | 24 | Абежнік аб парадку перагляду складу лесакарыстальнікаў лясоў м. значэньня. | Бюл. СНК № 10. |
| 51 | 6-VII | 20 | Абежны ліст аб абсьледваньні становішча лясоў м. знач. | |
| 52 | 10-VIII | 93 | Абежнік аб пераглядзе лясоў м. зн., пераданых саўгасам. | |
| 53 | 26-IX | 18561 | Тлумачэньне Ляснога кіраўніцтва абежніку № 105 за 1925 г. | |
| 54 | 10-IX | 18047 | Аб парадку і ўмовах пералічэньня зямель прац. карыст. пад нясельск.-гаспад. промыслы і вытворчасьці. | |
| 55 | 22-24-X | 19946 | Аб выключэньні с запаснага фонду вучасткаў, якія ўжо даўно асвоены насельніцтвам. | |
| | | | **1928 г.** | |
| 56 | 17-III | 4 | Абежнік аб скасаваньні тлумачэньня Лясн. К-ва да абежніку № 105. | |
| 57 | 10-IV | 5 | Абежнік аб перадачы у земфонд свабодн. пахатн. і сенажатн вуч. | |
| 58 | 23-VI | 9979 | Тлумачэньне Ляснога Кіраўніцтва да абежніку № 5—1928 г. | |

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра загатоўчыя цэны на махорачную сыравіну ўраджаю 1929 г.

На падставе п. 1 літ. „в“ і літ. „і“ арт. 3 „Палажэньня пра Нар. Камісарыят Гандлю БССР“ (З. З. БССР 1928 г. № 34, арт. 319) Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць наступныя дырэктыўныя загатоўчыя цэны на махорачную сыравіну ўраджаю 1929 г. у капейках за кгр.:

| | 1 гат. | 2 гат. | 3 гат. |
|---|---|---|---|
| а) „Гамузнае“ зьвязанае ў снапкі: | 19 | 16 | 13,5 |
| б) Чухран. ліст і ліcтав. папуша | 28,5 | 24,5 | 22 |
| в) Бадыльле | 9 | 7 | 6 |

2. Ніякіх скідак за сыравіну, якая папсавана „рабухай“ і „падгарам“ да 30% паверхні кожнага ліста—ня робіцца. За сыравіну, якая папсавана „рабухай“ і „падгарам“ звыш 30%, робіцца скідка з цаны ў разьмеры 1% за кожны процант пашкоджаньня звыш дазволеных 30, аднак з тым, каб агульнае зьніжэньне не перавышала 50% ацэнкі данага гатунку.

3. У залежнасьці ад ступені апрацоўкі і становішча махорачнай сыравіны, дазваляецца падвышэньне дырэктыўнай цаны на 2-гі і 3-ці гатункі ад 1/2 к. да 2 к. на кгр., як і скідка з дырэктыўных цэн на махорсыравіну 1-га гатунку ад 1/2 к. да 1 1/2 к., а пачынаючы з 2 га гатунку ад 1/2 к. да 1 к. на кгр.

4. Пры здачы махорсыравіны ў „тамузным“ выглядзе, ня зьвязанай ў снапкі, робіцца скідка ў разьмеры 1,2 к. на кгр.

5. Цэны на чухраны ліст і ліставую папушу ўстаноўлены пры ўмове адлучэньня ліста ад бадыльля пасьля сушкі махорсыравіны, пры чым чухраны ліст і ліставая папуша не павінны быць без бадыльля.

6. Прыёмка махорсыравіны праводзіцца па стандарту Махорсындыкату.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар НКГ БССР *Г. Паплаўскі.*

28 верасьня 1929 г.
№ 47.

---

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### пра загатоўку папяровай макулатуры ў 1929/30 г.

1. Загатоўку папяровай макулатуры ў БССР на 1929/30 г. вызначыць ў разьмеры 1200 тон на суму 40.000 руб.

2. Загатоўку макулатуры ў колькасьці 1000 тон, сартыроўку і здачу прамысловасьці ўскласьці на Дзяржгандльбел.

На Белпапертрэст ускладаецца загатоўка абрэзкаў у Палесдруку ў колькасьці 200 тон.

3. Разьмеркаваньне загатовак пакквартальна зацьвердзіць: I кв.—25%, II кв.—20%, III кв.—30%, IV кв.—25%.

4. Загатоўка Дзяржгандльбелам макулатуры праводзіцца ў дзяржаўных, каперацыйных установах і грамадзкіх арганізацыях, а таксама ў вытворчых прадпрыёмствах (апроч Белпапертрэсту) і прыватных асоб праз сваю стацыянарную загатоўчую сетку, арганізаваных контр-

агэнтаў (дзіцячыя камісіі, камітэты ўзаемадапамогі) і прыватных зборшчыкаў, працуючых па дагавору з Дзяржгандльбелам.

5. Абавязаць усе дзяржаўныя і каперацыйныя арганізацыі, у парадку пастановы Калегіі НК РСІ БССР за 5/I 1929 г. і пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР за 4/IV 1929 г. здаваць ўсю папяровую макулатуру Дзяржгандльбелу і яго аддзяленьням на мясцох.

6. Спажывецкая і с.-г. капярацыя вядзе загатоўку папяровай макулатуры дробнымі партыямі ад асоб праз свае стацыянарныя загатоўчыя пункты з перадачай Дзяржгандльбелу.

7. Абавязаць Дзяржгандльбел на працягу першага кварталу 1929/30 г. ахапіць розную канцылярскую, магазынную і інш. зборку макулатуры ва ўсіх акруговых гарадох і раённых цэнтрах.

8. Уся загатаўленая макулатура здаецца Белпапертрэсту. Абавязаць Дзяржгандльбел і Белпапертрэст да 20 кастрычніка 1929 г. заключыць умову аб парадку снабжэньня макулатурай папяровых фабрык.

9. Зацьвердзіць прыкладзеную табліцу загатоўчых і здатачных цэн і тэхнічных умоў з усімі заўвагамі да табліцы.

10. Абавязаць Дзяржгандльбел і Белпапертрэст падаваць у Н. К. Гандлю зьвесткі аб загатоўках і рэалізацыі папяровай макулатуры па форме, зацьверджанай НК РСІ БССР.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

Сакратар НКГ БССР *Г. Паплаўскі.*

30 верасьня 1929 г.
№ 48.

---

*Дадатак.*

**Загатоўчыя і здатачныя цэны на папяровую макулатуру і тэхнічныя ўмовы прыёмкі.**

| Група | Гатунак | НАМЭНКЛЯТУРА | Тэхн. умовы: Дапушч. % угару | Тэхн. умовы: Дапушч. % вадкасьці | Заг. цана у р. за тону | Здат. цана прам. у р. за тону |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Група „А“—макулатура выдавецкая, пераплётная, друкарская. | 1 | Кнігі, брашуры, часопісы белыя з друкам з прымешкай каляровай паперы ня больш 20%. *Увага.* Выданьні з кардоннымі пераплётамі расцэньваецца на 5% ніжэй | 2 | 10 | 38 | 56,9 |
| | 2 | Пераплётныя абрэзкі з белай паперы ня ніжэй № 7 чыста-белыя бяз друку і пісьма, без кардону і інш. гатункаў макулатуры . . | 2 | 10 | 60 | 76 |
| | 3 | Розныя папяровыя абрэзкі: друкарскія, канцэртныя, пераплётныя, за выключэньнем папяровага браку газэтных выданьняў . . . | 2 | 15 | 30 | 45 |
| | 4 | Папяровы брак газэтных выдавецтваў, газэтны зрыў з друкам і газэтныя абрэзкі . . | 2 | 15 | 28 | 44 |

| Група | Гатунак | НАМЭНКЛЯТУРА | Тэхн. умовы | | Заг. цана у р. за тону | Здат. цана прам. у р. за тону |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Дапушч. % угару | Дапушч. % вадкасьці | | |
| Група „Б"—архіўная макулатура. | 5 | Кнігі канторскія без пераплётаў з чыста рызьзёвай паперы (дарэвал. архівы першай паловы мінул. сталецьця) бяз друку, з пісьмом. . | — | 10 | 75 | 93,9 |
| | 6 | Кнігі канторскія і канцылярскія без пераплётаў. | — | 10 | 60 | 78,9 |
| | 7 | Кнігі канторскія і канцылярскія ў пераплётах. Справы ў вокладках і бяз іх, канторская і канцылярская перапіска, ведамасьці, блянкі сьпісаныя ці чыстыя з чыстай белай паперы, бібліатэчны архіў (кнігі, якія былі ў карыстаньні) . . . . . . . . | 3 | 10 | 40 | 58 |
| | 8 | Такая-ж макулатура, што і ў гатунку 7, каляровая ці з прымешкай каляровых папер звыш 10%, тэлеграфн. ленты, дзеньзнакі, квіткі, чыгуначныя дублікаты і г. д. . . . | 3 | 10 | 30 | 48,9 |
| Група „В"—макулатура фабрычна-завадзкая. | 9 | Табачны папяровы брак: гільзы, бабіны, мундштукі . . . . . . . . | 4 | 10 | 30 | 46 |
| | 10 | Пераплёты, папкі, картанажны брак, жаккардавы кардон, абрэзкі кардону . . . . | 3 | 10 | 19 | 35 |
| | 11 | Шпулі папяровыя бяз нітак . . . . | 3 | 10 | 35 | 38,8 |
| | 12 | Абрэзкі шпульнай паперы . . . . | 3 | 15 | 37 | 40,8 |
| | 13 | Утулкі ролявых папер і папяровыя патроны . | 2 | 10 | 21 | 37 |
| | 14 | Рвань фарбаваная шпалерных, папяровых і фарбавальных фабрык, малюнкі, плякаты, брак чайны, брак з цукерняў, брак парфюмэрны, ярлыкі, наклейкі, этыкеткі, запалачныя папяровыя абрэзкі . . . . . | 4 | 10 | 15 | 31 |
| Гр. „Г"— зборная. | 15 | Збор рознай магазыннай, канцылярскай паперы, паперы з установ і інш. за выключэньнем звалачнай . . . . . . . | 5 | 15 | 30 | 45 |

*Увагі.* 1. Загатоўчыя цэны ўстаноўлены для пачатковых зборшчыкаў макулатуры і абавязковы пры здачы яе загатоўшчыкам.

2. Загатоўчыя цэны паказаны ў рублёх за тону нэтто ў запакованым відзе франка склад прадаўца, калі ён знаходзіцца на адлегласьці ня больш 5 клм. ад чыгуначн. станцыі ці прыстані.

3. У выпадках продажу макулатуры ў пунктах, знаходзячыхся на адлегласьці больш 5 клм. ад ст. чыгункі ці прыстані з устаноўленых загатоўчых цэн робіцца скідка ў разьмеры фактычнага кошту гужавой падвозкі да бліжэйшага прыстанцыйнага пункту.

4. Здатачныя цэны ўстаноўлены на макулатуру, здаваемую папяровай прамысловасьці Дзяржгандлем. Арганізацыі, якія адгружаюць, па згодзе з Дзяржгандлем, макулатуру поўнагрузнымі вагонамі, сартыраваную і запакованую непасрэдна фабрыкам Белпапертрэсту, атрымліваюць здатачную цану за вылікам з яе камісіі Дзяржгандлю ня звыш 4%, пры чым за рэкламацыі прамысловасьці па гэтых адгрузках адказваюць арганізацыі, якія адгружалі макулатуру.

5. Здатачныя цэны паказаны ў рублёх за тону бруто, за нэтто пры ўстаноўленым % зьместу тары і фактычнай наяўнасьці гэткай. Цэны ўстаноўлены франка станцыя адпраўленьня ці прыстань. Выдаткі па нагрузцы ў вагоны і ўсе іншыя чыгуначныя зборы адносяцца за кошт прамысловасьці і ня ўключаюцца ў здатачныя цэны.

6. У партыях макулатуры групы „Б" і „В" дапушчаецца прымешка іншага ніжэйшага гатунку макулатуры гэтай-жа групы ў колькасьці ня звыш 10% бяз скідкі з цаны.

7. Не дапушчаецца прымешка іншых рэчаў, пэргаменту, капіравальнай паперы, каленых і прамасьленых шпуль, васкоўкі, масьлёнкі і калькі.

8. Дапушчаецца пагрузка макулатуры групы „Б" у перавязаных пачках.

9. Тара ўва ўсіх выпадках ня вышэй 2% ад вагі тавару.

## 13. Інструкцыя Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі, народных камісарыятаў Фінансаў і Земляробства БССР пра парадак водпуску слупоў для патрэб сельскай электрыфікацыі.

На падставе пастановы Эканамічнай Нарады БССР за 29 ліпеня 1929 г. і інструкцыі НКЗ БССР аб парадку водпуску слупоў для сельскай электрыфікацыі з дзяржаўных лясоў БССР устанаўляецца наступны парадак водпуску слупоў:

1. Акрвыканкомы не пазьней красавіка кожнага году падаюць НКЗ БССР заяўкі на патрэбныя ім на наступны гаспадарчы год слупы для сельскай электрыфікацыі.

2. НКЗ БССР увязвае паказаныя заяўкі з агульным плянам сельскай электрыфікацыі і абгрунтаваныя сводкі па акругах накіроўвае ў ВСНГ для канчатковага зацьверджаньня.

3. Пасьля зацьверджаньня, ВСНГ накіроўвае заяўкі ў Цэнтральную Лясную Камісію для складаньня кантрольных лічбаў патрэбы ў драўніне па акругах.

4. Цэнтральная Лясная Камісія памянёныя кантрольныя лічбы па паасобных акругах накіроўвае ў адпаведныя акруговыя камісіі на прадмет разьмеркаваньня слупоў па паасобных арганізацыях, будуючых электрастанцыі.

5. Загатоўка слупоў для сельскай электрыфікацыі праводзіцца тымі асноўнымі лесазагатоўшчыкамі, якія праводзяць загатоўкі ў раёне знаходжаньня спажыўца слупоў.

6. Здаваемыя для сельскай электрыфікацыі слупы павінны задавальняць тэхнічным умовам, зацьверджаным для Асінбуду:

а) слупы павінны быць загатоўлены з сырарастучага жывога лесу (не сухастойнага) з хвоі зімовай рубкі;

б) у дрэве не павінна быць гнілі, табачнага суччa, чэрваточыны, двайной забалоні, адлупы, марозабоіны;

в) косаслойныя слупы ня прымаюцца;

г) дыямэтры слупоў лічацца ў верхнім адрубе. Допуск у бок зьмяншэньня—8 м/м і ў бок павялічэньня—10 м/м;

д) слупы павінны быць магчыма правільнай круглай формы;

е) зьбег слупу ня менш 8 м/м на 1 мэтр. і ня больш 15 м/м на 1 мтр.;

ж) крывізна ня больш 10 м/м на 1 мтр. у колькасьці ня больш 20% ад агульнай колькасьці слупоў;

з) не павінна быць глыбокіх трэшчын;

і) здаровыя сукі дапушчаюцца дыямэтрам ня больш 50 м/м і ў колькасьці ня больш 1 на мтр. Сучча дыям. менш 20 м/м ня ўлічваецца.

7. Водпуск слупоў для сельскай электрыфікацыі вытвараецца па ўстаноўленых НК Гандлю цэнах без гандлёвай наддачы.

Пасьля падачы асноўнымі лесазагатоўшчыкамі ў Акрфа актаў здачы слупоў для сельскай электрыфікацыі, з разрахункаў паміж Акрфа і лесазагатоўшчыкамі, сьпісваецца розьніца паміж продажнай цаной і таксавым коштам драўніны.

8. Умовы разьліку за папёншчыну захоўваюцца тыя, што і для іншай драўніны.

Вык. аб. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *Баль.*

За Народнага Камісара Грашовых Спраў БССР *Гальперын.*

За Народнага Камісара Земляробства БССР *П. Філатаў.*

16 кастрычніка 1929 г.
№ 224/9.

Узгоднена з ВСНГ БССР— адносьнік за 14 кастрычніка 1929 г. № 418/20.

Зацьвярджаю.
Нам. Нар. Кам. Унутр. Спраў БССР *Я. Кроль*.
17 кастрычніка 1929 г.

# 14. ПРАВІЛЫ

## пра супроцьпажарную ахову вытворчых прадпрыемстваў, прамысловых і гандлёвых складаў.

### I. Агульныя палажэньні.

1. Наступныя правілы супроцьпажарнай ахова пашыраюцца на ўсе прадпрыемствы і склады, якія: а) маюць звыш 15 рабочых у зьмене; б) займаюць плошчу пад будынкамі і складачнымі месцамі звыш 500 кв. мэтраў. На прадпрыемствы і склады, якія зьяўляюцца небясьпечнымі ў сэнсе пажараў, гэтыя правілы пашыраюцца незалежна ад ліку рабочых і займаемай плошчы, за выключэньнем арт. арт. 63-64.

Небясьпечнасьць у сэнсе пажараў прадпрыемстваў і складаў устанаўляецца асобай інструкцыяй, якая выдаецца НК Працы СССР па ўзгадненьню з ВСНГ СССР і НКУС саюзных рэспублік („Правила и нормы для промышленного строительства", выдадзеныя Камісіяй па Будаўніцтву пры Савеце Працы і Абароны 5/III 1929 г., арт. 17).

2. Парадак адказнасьці за прыняцьце супроцьпажарных захадаў на прадпрыемствах і складах і ў паасобных часьцях іх і цэхах устанаўляецца паводле пастановы СНК СССР за 15/IУ-1927 г. „О мерах охраны государственных и имеющих государственное значение предприятий, складов и сооружений" (З. З. СССР 1927 г. № 19, арт. 221).

### II. Утрыманьне тэрыторыі.

3. Тэрыторыя вытворчых і складачных прадпрыемстваў павінна быць належным чынам агароджана і мець вольныя праезды на дарогі агульнага карыстаньня. Шырыня варот для праезду павінна быць ня менш 3,5 мэтраў.

4. Жылыя будынкі для рабочых і служачых, а таксама будынкі, якія прызначаны для культурна-асьветных мэтаў, павінны быць агароджаны ад вытворчых і складачных карпусоў, і мець самастойныя злучэньні з праездамі агульнага карыстаньня. Забараняецца скарыстаньне дзейных вытворчых і складачных будынкаў і іх частак для жылых памяшканьняў і культурна-асьветных мэтаў.

5. Тэрыторыя прадпрыемства і праезды павінны быць у начны час асьветлены.

6. Разрывы паміж будынкамі, парадак і ўмовы разьмяшчэньня будынкаў на граніцах суседніх вучасткаў, а таксама пабудаваньне розных прыбудовак, злучальных пераходаў і калідораў паміж карпусамі павінны рабіцца паводле правілаў і норм для прамысловага будаўніцтва. („Правила и нормы для промышленного строительства", выдадзеныя Камісіяй па Будаўніцтву пры СПА).

Пабудова злучальных праходаў і калідораў дапушчаецца толькі з агнятрывалых матарыялаў з такімі-ж дзьвярмі і могуць быць прызначаны выключна для мэтаў транспарту і перадачы энэргіі.

7. Дзьверы, праезды і разрывы паміж асобнымі будынкамі і пабудовамі не павінны завальвацца вырабамі, адкідамі вытворчасьці, сыравінай і г. д. Кожны будынак павінен, хаця-бы з аднаго боку, быць забясьпечаны вольным пад'ездам.

Праезды на тэрыторыі прадпрыемстваў павінны быць шырынёю ня менш 10 м. Калі на тэрыторыі прадпрыемства ёсьць канавы і рэльсавыя шляхі, яны не павінны перашкаджаць вольнаму перасоўваньню пажарнага абозу, для чаго ў патрэбных мясцох павінны быць пабудаваны зручныя пераезды праз гэтыя шляхі і канавы, а таксама адпаведныя прыстасаваньні для пракладкі рукавоў пад рэльсы.

8. Складваньне якіх-небудзь матарыялаў непасрэдна каля самых будынкаў не дазваляецца. Ад сьцен будынкаў да складаў матарыялаў павінен пакідацца праезд шырынёю ня менш 10 мэтраў. Каля агароджаў матарыялы могуць складвацца ня бліжэй 5 мэтраў.

Толькі ў час рамонтных работ дазваляецца складваньне матарыялаў для рамонту каля сьцен будынкаў, якія рамантуюцца.

### III. Утрыманьне памяшканьняў.

9. Забараняецца хаваньне, хаця-б і часовае, у лесьвічных клетках і на вышках якіх-небудзь рэчаў і матарыялаў, за выключэньнем зімовых ваконных рам на вышках. Скарыстаньне вышак, спэцыяльна прыстасаваных для вытворчых ці складачных патрэб, можа быць дапушчана толькі з дазволу мясцовых органаў дзяржаўнага пажарнага нагляду.

Гэтыя патрабаваньні не пашыраюцца на вэнтыляцыйныя ўстаноўкі.

10. Анучкі, пакульле і іншыя матарыялы, якія служаць для чысткі мэханізмаў, павінны захоўвацца ў мэталёвых скрынках, якія зачыняюцца і ня маюць літаваных швоў. Апаражненьне скрынак, а таксама прыбіраньне з рабочых памяшканьняў стружак, апілак, абрэзкаў і інш. адкідаў вытворчасьці, павінна рабіцца па меры іх накапленьня, але ня менш аднаго разу ў зьмену, перад скончэньнем работ; матарыялы гэтыя складаюцца ў бясьпечныя адносна пажараў месцы.

11. Курэньне ў прадпрыемствах, небясьпечных з боку пажараў, дазваляецца толькі ў памяшканьнях, якія спэцыяльна для гэтага прызначаны і забясьпечаны посудам з вадой для акуркаў.

Курэньне ў іншых прадпрыемствах рэгулюецца правіламі ўнутранага парадку данага прадпрыемства.

### IV. Ацяпленьне.

12. Прылады для апалу павінны быць упарадкаваны паводле правілаў прамысловага і грамадзкага будаўніцтва, пры чым павінны быць захаваны наступныя захады перасьцярогі:

а) печы і дымаходы павінны быць надзейна пабудаваны і ізаляваны ад загараючыхся частак будынку, мець агнятрывалую пракладку; пры чым адлегласьць ад дыму да дрэва павінна быць ня менш 40 см;

б) перад топкамі на загараючыхся падлогах павінны быць прыбіты мэталёвыя лісты, якія перавышаюць шырыню топкі ня менш, чым на 35 см. і даўжынёю ня менш 70 сантымэтраў;

в) устаноўка пераносных печаў дазваляецца, як часовая мера, толькі з дазволу мясцовай пажарнай аховы з захаваньнем усіх існуючых па гэтым пытаньні правілаў супроцьпажарнай бясьпекі;

г) вывядзеньне труб ад усялякага роду печаў у вэнтыляцыйныя каналы не дапушчаецца.

У прадпрыемствах, небясьпечных у сэнсе пажараў, дапушчаюцца толькі цэнтральныя сыстэмы ацяпленьня.

13. Параправодныя трубы, а таксама трубы цэнтральнага ацяпленьня павінны быць разьмешчаны ад загараючыхся частак будынку на адлегласьці ня менш 10 см. Хаваньне загараючыхся рэчаў каля параправодных труб бліжэй 10 см. забараняецца.

14. На дымавых трубах павінны быць прыладжаны рацыянальна сканструктаваныя іскралавіцелі, калі трубы даюць іскры.

15. Мэталёвыя трубы, якія адводзяць гарачыя газы, а таксама глушыцелі рухавікоў унутранага згараньня павінны быць разьмешчаны ад загараючыхся частак будынку на адлегласьці ня менш 1 мэтра і абаронены ад магчымасьці выпадковага дотыку да іх гаручых рэчаў.

16. Ачыстка пячных дымаходаў павінна праводзіцца на працягу сэзону апалу не радзей аднаго разу ў месяц. Ачыстка дымаходаў вытворчых печаў павінна вытварацца ў залежнасьці ад іх прызначэньня і скарыстаньня. Работа па ачыстцы дымаходаў ускладаецца на вызначаную асобу.

17. Складваньне для хаваньня і сушкі паліва, стружак і іншых гаручых рэчаў каля печаў і труб, якія адводзяць гарачыя газы, не дазваляецца.

### V. Асьвятленьне.

18. Электраправодка павінна адпавядаць патрабаваньням існуючых па гэтым пытаньні правілаў. Пэрыядычна становішча электрычных установак і правадоў павінен кантраляваць загадчык пажарнай аховы прадпрыемства сумесна з спэцыялістым-электратэхнікам.

У памяшканьнях, дзе ў вытворчай працы ўжываюцца лёгка-загараючыяся ці небясьпечныя ў сэнсе выбуху матэрыі, альбо дзе па тых або іншых прычынах можа быць скапленьне гаручых газаў, асьвятленьне дапушчаецца толькі электрычнае, лямпамі накальваньня, пры чым апошнія павінны быць заключаны ў гэрмэтычныя каўпакі, а выключацелі, рубільнікі, прадахраніцелі павінны ўстанаўляцца па-за гэтымі памяшканьнямі.

19. Ужываньне сьвечак для асьвятленьня дапушчаецца толькі ў мэталёвых ліхтарох з шыбамі, забароненымі сеткамі.

20. Асьвятленьне газаю, піранафтаю, газа-калільнымі лямпамі і г. д. дазваляецца пры адсутнасьці электрычнага ці газавага асьвятленьня, пры чым рэзэрвуары лямпаў павінны быць мэталёвымі.

21. Лямпы павінны быць устойлівыя і надзейна прымацаваныя да сьцен, столяў, ці іншых нярухомых частак будынку. Знаходзячыяся паблізу ад лямпаў драўляныя часьці павінны быць забаронены ад награваньня; пры гэтым ізаляцыя лічыцца дастатковай пры умове абабіўкі дрэва жалезам па азбэсту ці лямцу. Драўляныя часьці над лямпамі павінны знаходзіцца на адлегласьці ня менш 70 см. ад агня лямпы.

22. Рыхтавацца лямпы павінны ў асобных для гэтага адведзеных памяшканьнях пры дзённым сьвятле асобамі, якія спэцыяльна для гэтага прызначаны. Лямпы па памяшканьнях павінны разносіцца незапаленымі. Абслугоўваньне лямпаў падлеткамі забараняецца.

23. Пры газавым асьвятленьні не павінна быць адкрытых агней, незабароненых шклянымі каўпакамі. Адлегласьць драўляных частак і ізаляцыя апошніх ад газавых асьвятляльных гарэлак, а таксама ад адкрытых газавых ражкоў, якія прызначаны для тэхнічных мэтаў, павінны адпавядаць патрабаваньням артыкулу 21.

### VI. Вэнтыляцыя, пад'ёмнікі, сушні.

24. Для папярэджаньня пераходу дыму і агню ў выпадку пажару з аднаго паверху ці памяшканьня ў другія, вэнтыляцыйныя каналы павінны быць забясьпечаны адпаведнымі прыладамі, якія даюць магчымасьць спыніць дзеяньне сыстэмы і перашкодзіць распаўсюджваньню па ёй агню.

Уся сыстэма вэнтыляцыйных каналаў і камер павінна быць пабудавана з агнятрывалых матарыялаў і быць прыступнай для агляду і ачысткі.

Паказаныя патрабаваньні пашыраюцца таксама і на прылады, якія адводзяць і зьбіраюць ад мэханізмаў у працэсе вытворчасьці пыл.

25. Шахты пад'ёмнікаў, якія разьмешчаны ўнутры будынкаў і злучаюць некалькі паверхаў, павінны быць агароджаны сьценамі з агнятрывалых матарыялаў і мець агнятрывалае перакрыцьце. Наогул, усялякія прылады і мэханізмы для транспартаваньня, якія злучаюць некалькі паверхаў або памяшканьняў, павінны быць абсталяваны з захаваньнем мер немагчымасьці распаўсюджваньня па іх агню і дыму і павінны адпавядаць правілам прамысловага будаўніцтва, а таксама правілам для пад'ёмнікаў, зацьверджаным НК Працы СССР 24/VII 1923 г.

26. Сушні ўнутры фабрычных або заводзкіх будынкаў і майстэрняў або складаў павінны быць ізаляваны ад суседніх памяшканьняў сьценамі, падлогамі, столямі і дзьвярмі з агнятрывалых матарыялаў.

Топкі сушняў павінны знаходзіцца ў асобных памяшканьнях па-за сушняй.

### VII. Брандмаўэры, лесьвіцы, выхады.

27. Брандмаўэрам лічыцца агнятрывалая сьцяна, якая ў агнятрывалых будынках моцна зьвязана з асноўнымі канструкцыйнымі элемэнтамі будынку, а ў згараемых або абароненых ад загараньня будынках будуецца на самастойным падмурку.

Брандмаўэр павінен быць выведзены на ўсю вышыню будынку і ўзвышацца над паверхняй страхі ня менш чым на 0,7 мэтра; у згараемых будынках брандмаўэр павінен, апроч таго, выступаць за знадворныя паверхні знадворных сьцен на ўсю вышыню будынку і за канцы карнізаў і падстрэшкаў на 0,4 мэтра.

У брандмаўэрах могуць быць дапушчаны праёмы пры наступных умовах:

а) дзьвярныя праёмы павінны быць забаронены агнятрывалымі аўтаматычна зачыняючыміся дзьвярмі;

б) іншыя праёмы павінны быць забясьпечаны незгараемымі аўтаматычна зачыняючыміся палотнішчамі.

Аўтаматычна зачыняючыяся палотнішчы могуць быць заменены вадзянымі завесамі па ўзгадненьні ў кожным паасобным выпадку з органам дзяржаўнага пажарнага нагляду.

28. Нормы плошчаў памяшканьняў, якія дапушчаюцца паміж брандмаўэрамі, вызначаюцца адпаведнымі правіламі фабрычна-заводзкага будаўніцтва (арт. 6).

29. У мэтах аховы асабістага складу прадпрыемстваў на выпадак пажару, усе рабочыя памяшканьні павінны мець дастатковы лік выхадаў на двор або лесьвіцы.

Колькасьць выхадаў і лесьвіц, а таксама іх разьмеры і ўпарадкаваньне вызначаюцца адпаведнымі правіламі фабрычна-заводзкага будаўніцтва (арт. 6).

30. Усе дзьверы, якія вядуць у лесьвічныя клеткі з небясьпечных у сэнсе пажараў памяшканьняў, павінны быць агнятрывалымі. Такія-ж дзьверы павінны быць ва ўсіх памяшканьнях, дзе апрацоўваюцца або захоўваюцца небясьпечныя ў сэнсе загараньня матарыялы. Усе дзьверы з рабочых памяшканьняў і складаў павінны адчыняцца ў бок бліжэйшага выхаду на двор або ў лесьвічную клетку.

31. Кожны будынак, незалежна ад велічыні яго абводу (пэрымэтру), павінен быць забясьпечан хацяб-бы аднэю знадворнай пажарнай лесьвіцай.

У каменных будынках, маючых 3 або больш паверхаў (апроч сутарэньня ці паўсутарэньня), або агульную вышыню больш 15 мэтраў, павінны быць пабудаваны знадворныя стацыянарныя жалезныя лесьвіцы.

Колькасьць пажарных лесьвіц, іх разьмеры і ўпарадкаваньне павінны адпавядаць правілам прамысловага будаўніцтва (арт. 6).

Знадворныя пажарныя лесьвіцы разьмяшчаюцца толькі супроць прасьценкаў паблізу ад слухавых вокнаў. Да лесьвіц павінен быць заўсёды вольны приступ.

### VIII. Хаваньне лёгказагараючыхся вадкасьцяй і гаручых матарыялаў.

32. Запасы легказагараючыхся матарыялаў і вадкасьцяй павінны хавацца на прадпрыемствах асобна ад іншых матарыялаў у агнятрывалых памяшканьнях у бясьпечным у сэнсе выбуху посудзе; хаваньне гэтых матарыялаў у майстэрнях дапушчаецца толькі ў колькасьці сутачнай патрэбы ў бясьпечным у сэнсе выбуху посудзе і ў мясцох забясьпечаных ад агню або награваньня, у тым і другім выпадку з захаваньнем існуючых на гэты прадмет правілаў.

У адносіне да складаў гаручых вадкасьцяй павінны захоўвацца правілы і нормы, якія вызначаны ў пастанове СПА за 13 чэрвеня 1923 г. (З. З. 1923 г. № 56, арт. арт. 543, 544), а таксама ў пастанове Эканамічнае Нарады пры СНК БССР за 31 студзеня 1927 г. (З. З. БССР 1927 г. № 14, арт. 56).

33. Штабелі вугалю павінны складвацца на такім месцы, дзе-б пад імі ня зьбіралася і не застойвалася вада. Кожны штабель вугалю, коксу і торпу павінен займаць плошчу ня больш 500 кв. м. пры шырыні зьнізу ня больш 20 мэтраў, і вышынёй у залежнасьці ад сорту ня звыш 4 мтр. Праходы паміж асобнымі штабелямі, а таксама і бліжэйшымі агароджамі павінны быць ня менш 4 мэтраў.

Для папярэджваньня самаўзгараньня вугалю для нагляданьня за тэмпэратураю ўстанаўляюцца ўнутры штабеляў старчаковыя кантрольныя газавыя ці з ліставога жалеза трубы дыямэтрам ад 6 да 10 см., ніжнія канцы якіх не павінны даходзіць на 70 см. да нізу штабеля, а верхнія павінны выступаць ня менш чым на 30 см. над паверхняю штабеля.

Трубы гэтыя разьмяшчаюцца радамі па даўжыні штабелю ў адлегласьці ня больш 7 мэтраў ад ніжняга краю штабелю і з разрывамі як паміж трубамі, так і паміж радамі труб ня больш 6 мэтраў. Усе трубы пранумароўваюцца. Пасьля ўкладкі ў штабелі вугалю, вымяраецца ў трубах тэмпэратура, а ў далейшым вымерваньне павінна рабіцца не радзей аднаго разу ў тыдзень. Вынікі вымеру тэмпэратуры запісваюцца ў спэцыяльны журнал.

Замест пэрыядычнага вымерваньня тэмпэратуры можа быць устаноўлена спэцыяльная сыгналізацыя.

34. Штабелі пілаваных лясных матарыялаў не павінны перавышаць па даўжыні 30 мэтраў, а па шырыні—25 мэтраў, штабелі круглага лесу—па даўжыні—150 мэтраў, а па шырыні—15 мэтраў. Вышыня штабеляў не павінна быць звыш 12 мэтраў.

35. Штабелі дроў не павінны перавышаць па даўжыні 30 мэтраў, па шырыні—7 мэтраў і па вышыні—5 мэтраў.

36. Паміж асобнымі штабелямі лясных матарыялаў і дроў павінны ахоўвацца разрывы ня менш 5 мэтраў.

37. Штабелі ільну, пянькі, пакульля, бавоўны, прасаванага сена, саломы і іншых падобных матарыялаў павінны быць ня больш 10 мэтраў па даўжыні і шырыні і 6 мэтраў—па вышыні, з укладкай іх на насьцілах. Памянёныя матарыялы, уложаныя на адкрытых мясцох, павінны быць закрыты брэзэнтамі.

Паміж асобнымі штабелямі валакністых матарыялаў павінны ўжывацца наступныя разрывы з усіх бакоў:

а) на адкрытых мясцох—ня менш 10 мэтраў;

б) у закрытых памяшканьнях ці пад павецямі—ня менш 1 мэтру ад сьцен.

38. Трэскі, кара і гаручае драўлянае сьмецьце пасьля скончэньня работ павінны зьбірацца і складвацца ў асобным прызначаным для гэтага месцы і зьнішчацца спосабамі, бясьпечнымі ў сэнсе пажару.

39. Хаваньне пералічаных у арт. арт. 33—38 гаручых матарыялаў дапушчаецца ня бліжэй 15 мэтраў ад неагнятрывалых будынкаў і 10 мэтраў—ад іншых будынкаў.

Апроч паказаных у арт. 33—38 разрываў паміж штабелямі павінны быць праезды шырынёю ня менш 10 мэтраў; кожны штабель павінен прылягаць адным з сваіх бакоў да аднаго з такіх праездаў.

### IX. Вадазабясьпечаньне для супроцьпажарных мэтаў.

40. Кожнае прадпрыемства павінна быць забясьпечана ў любы час дня і начы вадою спэцыяльна для пажарных мэтаў у колькасьці патрэбнай для тушэньня пажараў як знадворку, так і ўнутры будынкаў і пабудоў.

Для пажаратушэньня могуць быць скарыстаны натуральныя вадазборы або вадаправоды грамадзкага прызначэньня, знаходзячыяся на тэрыторыі прадпрыемства ці паблізу яго.

41. Пры адсутнасьці на тэрыторыі прадпрыемства вадазбораў, паказаных у арт. 40, трэба ўпарадкаваць штучныя вадазборы, як-та: студні, сажалкі, бакі і г. д. з такім разьлікам, каб кожная помпа была забясьпечана вадою для трохгадзіннай бесьперапыннай работы.

42. Для пад'езду да вадазбораў неабходна ўпарадкаваць зручныя пад'езды для ўстанаўленьня помпаў і бесьперашкоднага атрыманьня вады.

43. Для падачы вады на пажар на кожным прадпрыемстве, у залежнасьці ад мясцовых умоў, могуць ужывацца:

а) вадаправод грамадзкага прызначэньня,

б) станцыянарныя мэханічныя насосы, якія падаюць ваду ў ваданапорныя бакі ці непасрэдна ў пажарную знадворную і ўнутраную вадаправодную сетку, і

в) перасоўныя пажарныя помпы, якія прыводзяцца ў дзеяньне ручным ці мэханічным спосабам.

Вадаправодная сетка на тэрыторыі прадпрыемства павінна быць кальцавой сыстэмы.

44. Знадворнае вадазабясьпечаньне павінна быць такое, каб жылыя будынкі і службы пры іх можна было паліваць адначасова ня менш, чым з 2 пунктаў, а вытворчыя будынкі і склады хаваньня цьвёрдых гаручых матар'ялаў—ня менш, чым з 4.

Пры даўжыні рукава ня звыш 200 мэтраў і дыямэтры яго ня менш 63 мілімэтраў кожны струмень павінен перавышаць на 10 мэтраў найвышэйшы пункт абараняемай пабудовы пры ўмове знаходжаньня

ствала (брандспойта) на вышыні гэтага пункту. Падача вады брандспойтам павінна быць ня менш 300 літраў у хвіліну.

У залежнасьці ад пажарнай небясьпекі і разьмераў прадпрыемстваў і складаў колькасьць струменьняў можа быць вызначана ў іншым ліку па ўзгадненьні з органам дзяржаўнага пажарнага нагляду.

45. Знадворная пажарная вадаправодная сетка павінна мець гідранты з адросткамі дыямэтрам ня менш 63 мілімэтраў; гідранты павінны знаходзіцца ня бліжэй 4 мэтраў ад знадворных сьцен абараняемых будынкаў і не далей 80 мэтраў адзін ад другога і быць устаноўлены на вадаправодных трубах з дыямэтрам ня менш 100 мілімэтраў.

Разьмяшчэньне пажарных гідрантаў павінна быць ясна адзначана і да іх павінен быць заўсёды забясьпечан вольны приступ.

Гідранты павінны быць забаронены ад замярзаньня і забясьпечаны дастатковай колькасьцю рукавоў, адпавядаючых патрабаваньням арт. 44.

Разьмяшчэньне гідрантаў павінна быць такое, каб пры пракладцы ад іх рукавоў было забясьпечана вольнае перасоўваньне пажарнага абозу.

46. Унутранае вадазабясьпечаньне для супроцьпажарных мэтаў павінна быць такое, каб любы пункт памяшканьня вытворчых і складзкіх будынкаў магчыма было паліваць вадою адначасова ня менш чым 2 струменьнямі, пры даўжыні 10 мэтраў кожная, і з выкідваньнем ня менш 180 літраў вады ў хвіліну. Дыямэтр рукавоў не павінен быць менш 44 мілімэтраў, а даўжыня ў памяшканьні ня звыш 15 мэтраў.

Унутраныя пажарныя краны павінны знаходзіцца ў кожным паверсе апальваемых будынкаў на пляцоўках лесьвічных клетак, калі яны апальваюцца, а таксама ўнутры памяшканьняў, каля сталых і запасных выхадаў.

Пры кожным пажарным кране павінен захоўвацца рукаў з ствалом, пры чым павінны быць забясьпечаны зручнасьць нагляду за яго становішчам і хуткасьць увядзеньня яго ў работу.

47. Дыямэтры пажарных гідрантаў, кранаў і рукавоў, а таксама тып злучальных гаек павінны быць вызначаны па ўзгадненьні з мясцовым органам дзяржаўнага пажарнага нагляду.

У выпадку немагчымасьці ўвядзеньня на прадпрыемстве такога тыпу злучальных гаек, як у гарадзкой пажарнай камандзе, на прадпрыемстве павінна быць адна ці некалькі пераходных гаек, незалежна ад наяўнасьці іх у абозе гарадзкой пажарнай каманды.

48. Пры ўстаноўцы воданапорнага баку для пажарнага вадазабясьпечаньня ёмістасьць бака павінна быць:

а) для знадворнай сеткі ня менш 50 куб. мэтраў;

б) для ўнутранай пажарнай вадаправоднай сеткі ня менш 10 куб. мэтраў пры ліку кранаў ня больш 5;

Пры большым ліку кранаў ёмістасьць бака павінна быць павялічана на ½ куб. мэтра на кожны кран. Пры ёмістасьці бака звыш 25 куб. мэтраў ён можа абслугоўваць неабмежаваны лік кранаў;

в) ваданапорны бак можа быць адзін як для знадворнай так і для ўнутранай вадаправоднай сеткі. Пры гэтым ёмістасьць яго павінна быць роўнай суме паказаных у п. п. „а“ і „б“ аб‘ёмаў.

Ваданапорны бак можа быць скарыстаны для гаспадарчых і для вытворчых мэтаў, пры ўмове, аднак, што вызначаны для пажарных патрэб запас вады ў ім будзе падтрымліваецца праз адпаведныя прыстасаваньні, якія дзейнічаюць аўтаматычна.

Ваданапорны бак павінен быць заўсёды напоўнен вадою і забясьпечан прыстасаваньнямі для аўтаматычнага паказваньня колькасьці вады ў ім.

Ваданапорны бак павінен быць ацеплены для папярэджваньня замярзаньня ў ім вады і пэрыадычна ачышчацца ад бруду.

Установка ваданапорных бакаў дапушчаецца ў агнятрывалых або забароненых ад загараньня вышках, ці іншых пабудовах.

49. Помпы, якія служаць для напаўненьня ваданапорных бакаў, павінны мець прылады для пераключэньня непасрэдна ў ваданапорную сетку.

Паравыя помпы павінны пачынаць работу не пазьней, як праз 15 хвілін з моманту падачы пажарнага сыгналу. Помпы-ж, якія дзейнічаюць ад другіх мэханічных рухавікоў, павінны пачынаць работу зараз-жа з падачай пажарнага сыгналу, і пры гэтым без раменнай перадачы да помпы. Падача вады з помпаў павінна адпавядаць арт. арт. 44 і 46.

50. Колькасьць ручных пажарных труб і іх моцнасьць павінна знаходзіцца ў залежнасьці, апроч умоў, якія зьмешчаны ў арт. арт. 44 і 46, таксама і ад магчымасьці іх абслугоўваньня рабочымі.

Для абслугоўваньня ручных пажарных труб, у залежнасьці ад іх моцнасьці, патрэбен наступны лік рабочых:

| Дыямэтр цыліндр. | Падача вады ў хвіліну | Патрэбна качальшчыкаў |
|---|---|---|
| 3½ | 128 літраў | 6-8 чал. |
| 3¾ | 146 " | 8-10 " |
| 4 | 187 " | 10-12 " |
| 4½ | 240 " | 12-14 " |
| 5 | 258 " | 14-16 " |
| 5¼ | 266 " | 15-18 " |
| 5¾ | 315 " | 16-18 " |

Ручныя пажарныя помпы павінны быць установлены на колах, а ўзімку на санях.

У залежнасьці ад характару прадпрыемства або склада, па патрабаваньні органаў дзяржаўн. паж. нагляду, замест ручных помпаў павінны быць установлены мэханічныя пажарныя помпы.

### X. Спрынклернае абсталяваньне.

51. У прадпрыемствах і складах, небясьпечных у сэнсе пажару, у якіх вытворчыя памяшканьні маюць агульную плошчу падлогі звыш 10.000 кв. мэтраў, павінны быць прыладжаны спрынклерныя сыстэмы.

У залежнасьці ад умоў вытворчасьці і ступені пажарнай небясьпекі яго, органам дзяржаўнага пажарнага нагляду надаецца права патрабаваць установкі спрынклернага абсталяваньня на прадпрыемствах і з меншай плошчаю падлогі.

Гэтае патрабаваньне адносіцца толькі да тых відаў вытворчасьці, дзе для тушэньня пажараў можа ўжывацца вада.

Спрынклерныя сыстэмы павінны адпавядаць правілам, якія вызначаны для іх.

### XI. Сыгналізацыя.

52. На ўсіх прадпрыемствах і складах павінны быць: тэлефонная, электрычная, гукавая, ці іншая надзейная сыгналізацыя для паведамленьня аб пажары і выкліку пажарнай каманды ў любы час дня і начы. Падача пажарнага сыгналу павінна быць забясьпечана з кожнага корпусу і небясьпечнага ў сэнсе пажару пункту, а таксама з месца агульнай аховы прадпрыемства.

Пры наяўнасьці пажарных дружын, караулаў або каманд прыёмная станцыя пажарнай сыгналізацыі павінна быць разьмешчана ў дзяжурным памяшканьні пажарнай аховы ў асобным вызначаным месцы.

53. Пры ўпарадкаваньні электрычнай пажарнай сыгналізацыі, яна павінна працаваць па прынцыпу сталага току, г. зн. сыгналы павінны падавацца разрывам току, і адпавядаць вызначаным па гэтым пытаньні правілам.

54. Пажарныя гукавыя сыгналы (гудкі, сырэны і д. п.), якія ўстанаўляюцца на прадпрыемствах і складах, павінны быць узгоднены з мясцовымі адміністрацыйнымі органамі і органамі мясцовага дзяржаўнага пажарнага нагляду.

55. Рабочыя і служачыя прадпрыемстваў павінны быць азнаёмлены з спосабамі выклікаў пажарнай дапамогі. Зьвесткі аб гэтых спосабах павінны быць вывешаны на відных мясцох.

### XII. Супроцьпажарнае абсталяваньне.

56. Кожнае прадпрыемства і склад павінны быць забясьпечаны ў залежнасьці ад іх разьмераў, умоў вытворчасьці, спосабаў вадазабясьпечаньня і г. д., па ўзгадненьні з дзяржаўным пажарным наглядам, патрэбным пажарным інвэнтаром, як: пажарнымі помпамі, гідрапультамі, агнятушыцелямі, бочкамі, вёдрамі, скрынкамі з пяском, лесьвіцамі, інструмэнтам для ламаньня і г. д.

57. Пажарны абоз і інвэнтар павінны захоўвацца ў спэцыяльна прызначаным закрытым памяшканьні—пажарным дэпо, дзе павінны быць прылады для сушкі, прамыўкі і папраўкі рукавоў.

58. Кожнае памяшканьне прадпрыемства або складу павінна быць забясьпечана хэмічнымі ручнымі агнятушыцелямі з разьліку 1 апарат на кожныя 200 кв. мэтраў падлогі, але ня менш 2 на паверх і аднаго на памяшканьне.

За хэмічнымі агнятушыцелямі павінен быць сталы нагляд і яны ўтрымоўваюцца паводле правіл, якія для іх існуюць.

59. Пры адсутнасьці ўнутранага вадаправоду памяшканьні павінны быць забясьпечаны вёдрамі, якія заўсёды павінны быць з вадой з разрахунку ня менш аднаго вядра на 50 кв. мтр. падлогі ў небясьпечных у сэнсе пажару прадпрыемствах і ня менш аднаго вядра на 100 кв. мтр. падлогі ў іншых прадпрыемствах, але ня менш 4 вёдзер на паверх у абодвых выпадках. Вёдры можна замяняць агнятушыцелямі і гідрапультамі з разьліку 1 агнятушыцель або гідрапульт замест 2-х вёдзер.

Для забясьпечаньня належнага карыстаньня вёдрамі і гідрапультамі ў час тушэньня пажару, павінны быць чаны або цэбры з вадой у ліку ня менш 2 на паверх, агульнай ёмістасьцю ня менш 120 літраў на 100 кв. мтр. падлогі.

60. Паказаныя прылады тушэньня павінны знаходзіцца ў памяшканьнях прадпрыемства адпаведна з характарам вытворчасьці ў незаваленых і лёгкадаступных месцах і павінны быць у поўнай спраўнасьці і гатоўнасьці для безадкладнага дзеяньня.

У тых будынках і пабудовах, унутры якіх разьмяшчэньне вёдзер і агнятушыцеляў зьяўляецца немэтазгодным, як, напрыклад, склады, пакгаўзы і г. д., памянёныя прылады для тушэньня агня могуць разьмяшчацца знадворку каля будынкаў і пабудоў, з захаваньнем паказаных норм.

На зімовы час вёдры з вадою, якія ўстаноўлены ў халодных памяшканьнях ці знадворку будынкаў, павінны замяняцца агнятушыцелямі з зарадамі, якія не замярзаюць.

61. У памяшканьнях, дзе маюцца электра-рухавікі, устанаўляюцца апроч паказаных вышэй прыладаў, скрынкі з пяском ёмістасьцю ў 1/2 куб. мтр. з аднэй жалезнай лапатай. Ручныя хэмічныя агнятушыцелі павінны быць сухія, якія дзейнічаюць пры дапамозе сьціснутага газу. Скрынкі і лапаты павінны быць афарбаваны ў чырвоны колер з адпаведнымі надпісамі.

62. Упарадкаваньне громаадводаў праводзіцца з захаваньнем вызначаных для гэтага правілаў.

### XIII. Пажарны нагляд.

63. Для непасрэднага загадваньня пажарнай аховай і нагляду за пажарнай бясьпечнасьцю прадпрыемстваў і складаў павінна быць вызначана спэцыяльная асоба.

На гэтую асобу ўскладаецца: а) нагляд за дакладным захаваньнем правілаў супроцьпажарнай аховы на прадпрыемстве; б) нагляд за спраўным становішчам прыладаў і прыстасаваньняў пажаратушэньня і належным забясьпечаньнем прадпрыемства ці складу вадой на выпадак пажару; в) нагляд за захаваньнем неабходных захадаў перасьцярогі пры карыстаньні агнём; г) нагляд за належным азнаямленьнем асабовага складу пажарнай аховы, а таксама рабочых і служачых з правільнымі спосабамі пажаратушэньня і карыстаньня пажарнымі прыладамі; д) сваячасовае паведамленьне загадчыка прадпрыемства аб неабходнасьці прыняцьця адпаведных захадаў для зьнішчэньня парушэньняў правілаў пажарнай аховы.

На прадпрыемствах, дзе павінны быць прафэсіянальныя пажарныя арганізацыі, абавязкі загадчыка пажарнай аховы ўскладаюцца на начальнікаў гэтых арганізацый.

64. Аб асобе, на якую ўскладзена загадваньне пажарнай аховай прадпрыемства, павінны быць дадзены ў трох-дзённы тэрмін мясцоваму органу дзяржаўнага пажарнага нагляду зьвесткі па дадана́й да гэтых правілаў форме. Пры выяўленьні неадпаведнасьці загадчыка пажарнай аховы прадпрыемства да гэтай пасады, органам дзяржаўнага пажарнага нагляду даецца права патрабаваць замены гэтага загадчыка іншай асобай.

### XIV. Пажарныя дружыны, пасты, каманды.

65. У прадпрыемствах і складах, дзе лік працуючых менш 50 чалавек у зьмене, увесь асабовы склад павінен быць падрыхтаваны да карыстаньня пажарным інвэнтаром.

66. У прадпрыемствах і складах, у якіх працуе ад 51 да 250 чалавек у зьмене, павінны быць арганізаваны пажарныя дружыны ў ліку ня менш 15 чалавек.

67. У прадпрыемствах або складах, у якіх працуе ад 251 да 750 чалавек у зьмене, апроч пажарнай дружыны, павінны быць вызначаны пажарныя пасты (каравулы) з прафэсіяналаў-пажарных, якія знаходзяцца пад наглядам загадчыка пажарнай аховы.

68. У прадпрыемствах і складах, у якіх працуе больш 750 чалавек у зьмене, ці ў якіх плошча забудоўкі перавышае 0,5 кв. кілёмэтра, павінны быць арганізаваны, апроч пажарнай дружыны, прафэсіянальныя пажарныя каманды з такім лікам людзей у зьмене, каб пажарных, апроч брандмэйстара, адначасова выяжджаючых на пажар, было ня менш 6 чалавек пры наяўнасьці на прадпрыемстве вадаправоду і 8 чалавек— пры адсутнасьці яго, і пры адпавядаючым пажарна-тэхнічным абсталяваньні.

У залежнасьці ад мясцовых умоў і ступені забясьпечанасьці прадпрыемства або складу ў пажарнай адносіне органам дзяржаўнага пажарнага нагляду даецца права ў такіх прадпрыемствах і складах, замест арганізацыі пажарных каманд, дапушчаць арганізацыю пажарных караулаў.

69. У прадпрыемствах або складах, якія зьяўляюцца небясьпечнымі ў сэнсе пажару, органам дзяржаўнага пажарнага нагляду даецца права патрабаваньня арганізацыі пажарных дружын, пастоў і каманд, незалежна ад ліку рабочых і велічыні тэрыторыі, якую займае прадпрыемства.

70. У залежнасьці ад мясцовых умоў і па ўзгадненьні з мясцовым органам дзяржаўнага пажарнага нагляду можа быць утворана аб'яднаньне пажарнай аховы некалькіх прадпрыемстваў, або аб'яднаньне іх з гарадзкой, чыгуначнай або інш. прафэсіянальнай пажарнай арганізацыяй.

71. Вызначэньне ліку асабістага складу, а таксама тэхнічнага абсталяваньня пажарных арганізацый устанаўляецца па ўзгадненьню з органамі дзяржаўнага пажарнага нагляду і павінна знаходзіцца ў залежнасьці: а) ад велічыні пункту, каштоўнасьці знаходзячыхся ў ім будынкаў і інш. маемасьці і ступені пажарнай небясьпечнасьці апошніх; б) ад стану і прыгоднасьці для мэтаў пажаратушэньня вадаправодных сетак, а таксама штучных і натуральных вадазбораў; в) ад становішча шляхоў, як на тэрыторыі самога прадпрыемства, так і на прылягаючай да яго тэрыторыі.

72. На пералічаныя вышэй пажарныя арганізацыі прадпрыемстваў ускладаецца: а) дзяжурства на пастох, дзе яны вызначаны, б) утвараньне пэрыядычных абыходаў тэрыторыі і памяшканьня прадпрыемства, паводле расьпісаньня, для нагляду за выкананьнем правіл і распараджэньняў аб захадах перасьцярогі ад пажараў, в) неадкладнае прыняцьце захадаў да тушэньня пажараў пры іх узьнікненьні.

73. Памяшканьне для дзяжурнай зьмены пажарнай аховы павінна быць пры пажарным дэпо.

74. Пры наяўнасьці ў раёне разьмяшчэньня прадпрыемства другіх пажарных арганізацый (фабрычна-заводзкіх, транспартных і г. д.) адміністрацыя прадпрыемства ўстанаўляе згоду з апошнімі аб парадку узаемнай дапамогі ў выпадку пажару.

75. Скарыстаньне пажарнага інвэнтару і абсталяваньня, а таксама пажарных працаўнікоў для работ, якія не адносяцца да пажарнай справы, караецца паводле пастановы Савету Працы і Абароны за 4 мая 1921 году (З. З. 1921 г. № 39, арт. 208).

### XV. Парадак і тэрміны ўжываньня гэтых правілаў.

76. Для разьвіцьця гэтых правілаў у паасобных прадпрыемствах і складах, дапасавальна да вытворчасьці, распрацоўваюцца і ўзгадняюцца з мясцовымі органамі дзяржаўнага пажарнага нагляду інструкцыі пра супроцьпажарныя мерапрыемствы. У кожным прадпрыемстве павінна быць асобная кніга для запісу наяўнасьці і становішча пажарнага інвэнтару і абсталяваньня і іх апрабаваньня, пэрыадычных абгля-

даў, а таксама для адзнакаў аб пажарах, вучэньнях і трывогах і аб чыстцы дымаходаў. Вядзеньне і хаваньне гэтай кнігі ўскладаецца на загадчыка пажарнай аховы.

78. Да пуску ў ход, усе вытворчыя і складзкія прадпрыемствы, якія ўноў упарадкоўваюцца ці капітальна адбудоўваюцца, павінны быць папярэдня абгледжаны органамі дзяржаўнага пажарнага нагляду для высьвятленьня арганізацыі супроцьпажарных мерапрыемстваў.

Дазвол на адчыненьне прадпрыемстваў можа быць дадзены толькі пры наяўнасьці адпаведнага заключэньня органа дзяржаўнага пажарнага нагляду.

78. Гэтыя правілы як у адносіне да ўноў пабудаваных ці капітальна адбудаваных прадпрыемстваў, таксама і ў адносіне існуючых прадпрыемстваў і складаў ажыцьцяўляюцца парадкам і ў тэрміны, якія вызначаюцца абсьледавальнымі супроцьпажарнымі камісіямі або органамі дзяржаўнага пажарнага нагляду па ўзгадненьні з кіраўнікамі адпаведных прадпрыемстваў.

79. Пры пабудове новых прадпрыемстваў, а таксама пры капітальным пераабсталяваньні існуючых прадпрыемстваў, апроч паказаных вышэй патрабаваньняў, павінны захоўвацца, па пытаньнях, маючых дачыненьне да пажарнай небясьпекі, „Правила и нормы для промышленного строительства“, якія выдадзены Камісіяй па Будаўніцтву пры Савеце Працы і Абароны 5 сакавіка 1929 г.

Інспэктар па пажарнай ахове НКУС БССР *А. Берасьневіч.*

---

*Дадатак.*

## ЗЬВЕСТКІ

### аб загадчыку пажарнай аховы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

(Назва прадпрыемства або ўстановы)

1. Прозьвішча, імя і імя па бацьку . . . . . . . . . . . . . . . .
2. Радзіўся ў . . . . . . годзе . . . . . . . . . . . . . мес. . . . . дня
3. Нацыянальнасьць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
4. Сацыяльнае становішча . . . . . . . . . . . . . . . . . .
5. Адукацыя: а) агульная . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
   б) спэцыяльная . . . . . . . . . . . . . . . . . .
6. Прафэсія . . . . . . . . . . . . . . . . . з стажам . . . . . год.
7. Партыйнасьць . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
8. Член прафсаюзу . . . . . . . . . . . . . . . з . . . . . . . году.
9. Адносіны да вайсковай павіннасьці . . . . . . . . . . .
10. Даныя аб пажарным стажы . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
11. Адрас . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Подпіс асобы, якая дае зьвесткі:

„ “ . . . . . . . . . . . . 192 г.

Подпіс адміністрацыі, якая сьведчыць правільнасьць зьвестак.

## 15. Правілы

### пра супроцьпажарныя мерапрыемствы на будаўнічых работах.

1. Гэтыя правілы распаўсюджваюцца на ўсе віды пабудоў, што будуюцца дзяржаўнымі, каперацыйнымі і грамадзкімі ўстановамі, а таксама мяшанымі акцыйнымі таварыствамі і прыватнымі асобамі, якія праводзяць будаўніцтва як падрадным, так і гаспадарчым спосабам, за выключэньнем бягучага рамонту, пры плошчы забудоўкі больш за 1000 кв. мэтраў.

На пабудовах пры плошчы забудоўкі менш за 1000 кв. мэтраў, супроцьпажарныя мерапрыемствы ўстанаўляюцца ў кожным паасобным выпадку арганізацыямі, што будуюць пасьля ўзгадненьня з дзяржаўнай пажарнай аховай.

2. Для загадваньня пажарнай аховай і нагляду за пажарнай бясьпекай на паказаных вышэй пабудовах будаўнічыя арганізацыі павінны назначыць адказную асобу, якія знаходзіцца ў непасрэдным падпарадкаваньні выканаўца работ, які нясе агульную адказнасьць за пажарную ахову пабудовы, пры чым да абавязкаў загадчыка пажарнай аховы належыць:

а) вызначэньне роду, разьмераў і колькасьці пажарных сродкаў і мерапрыемстваў для данай пабудовы, з паведамленьнем аб іх адказнага кіраўніка пабудовы;

б) нагляд за дакладным выкананьнем усімі знаходзячыміся на пабудове асобамі правіл аб мерах пажарнай бясьпекі пры правядзеньні будаўнічых работ, прыняцьце захадаў да сваечасовага зьнішчэньня ўсіх парушэньняў, паведамляючы аб іх адказнаму кіраўніку работ;

в) нагляд за тым, каб усе прылады пажаратушэньня былі ў спраўнасьці і каб будаўніцтва было забясьпечана вадой на выпадак пажару;

г) нагляд за выкананьнем пажарных мер перасьцярогі пры ўжываньні агня;

д) нагляд за належным азнаямленьнем асабовага складу пажарнай аховы і варты, а таксама рабочых і служачых з правільнымі спосабамі пажаратушэньня, для чаго ён павінен іх інструктаваць.

Пры неадпаведнасьці асобы, вызначанай для загадваньня пажарнай аховай, займаемай ім пасадзе, органам дзяржаўнага пажарнага нагляду даецца права патрабаваць замены яго іншаю асобаю.

Пры правядзеньні будаўнічых работ на тэрыторыі існуючых пабудоў і прадпрыемстваў альбо ў непасрэднай блізкасьці ад іх загадваньне пажарнай аховай будаўніцтва павінна ўскладацца, па сумеснаму ўзгадненьню, на асобу, якая загадвае пажарнай аховай гэтых пабудоў і прадпрыемстваў.

3. Пры будаваньні вельмі важных пабудоў дзяржаўнага значэньня органам дзяржаўнага пажарнага нагляду даецца права патрабаваць ўстанаўленьня пажарных вартаўнічых пастоў на тэрыторыі пабудовы альбо прафэсіянальных пажарных каманд у залежнасьці ад мясцовых умоў.

4. Тэрыторыя пабудовы павінна быць агароджана драўляным плотам з брамаю на праезды агульнага карыстаньня. Пад'езды да тэрыторыі пабудовы не павінны завальвацца.

5. Для зручнага і бесьперашкоднага перасоўваньняпажарных абозаў па тэрыторыі будаўніцтва павінны быць пабудованы праезды ня менш 5 мэтраў шырынёю. Калі на тэрыторыі будаўніцтва ёсьць канавы і рэльсавыя шляхі, то праз іх павінны быць пабудаваны зручныя пераезды. Завальваньне праездаў не дазваляецца.

6. Пры складах, якія знаходзяцца на тэрыторыі будаўніцтва, а таксама каля будуючыхся пабудоў у выстарчальнай колькасьці павінны быць прыстасаваньні для тушэньня пажару ў самым пачатку.

Колькасьць і від пажарнага інвэнтару і абсталяваньня вызначаецца па ўзгадненьні з мясцовым органам дзяржаўнага пажарнага нагляду.

7. Кожная пабудова павінна быць забясьпечана ў любы час дня і начы вадой спэцыяльна для тушэньня пажару, пры чым для падачы вады да месца пажару могуць ужывацца агульны або мясцовы вадаправод, перасоўныя ручныя або мэханічныя насосы, гідрапульты, вёдры.

Калі на тэрыторыі будаўніцтва ёсьць натуральныя вадаёмы—рэкі, вазёры, саджалкі—да іх павінны быць пабудаваны зручныя шляхі для лёгкага пад'езду і скарыстаньня пажарнымі насосамі.

Калі вадаправоду, прыстасаванага для тушэньня пажару, няма, то на пабудовах павінны быць жалезныя вёдры, афарбаваныя масьлянай фарбай заметнага колеру з надпісам „пажарнае“, напоўненыя вадою і назначаныя выключна для тушэньня пажару, у колькасьці ня менш аднаго вядра на 50 кв. мэтраў пляну, але ня менш 4 вёдзер на адзін паверх.

Вёдры могуць замяняцца агнятушыцелямі або гідрапультамі. Для магчымасьці належнага карыстаньня вёдрамі і гідрапультамі на месцы работы павінны знаходзіцца чаны або бочкі, закапаныя ў зямлю, або цэбры з вадою агульнай ёмкасьцю ня менш 10 вёдзер на кожныя 100 кв. мэтраў пляну. Для тушэньня вадкасьцяй, якія лёгка загараюцца, павінны быць скрынкі з пяском. Калі на пабудове ёсьць вадаправод, то знадворныя пажарныя гідранты ўстанаўляюцца з такім разьлікам, каб пры дапамозе рукава даўжынёю ня больш 40 мэтраў можна было паліваць любое месца сьцен, рыштаваньняў і г. д.

8. У карпусох, пры адсутнасьці ў іх унутраных пажарных кранаў, павінны ўстанаўляцца агнятушыцелі з разрахунку 1 на кожныя 200 кв. мэтраў падлогі, але ня менш 2 на паверх.

У памяшканьнях, дзе шмат гаручых матарыялаў і дзе захоўваюцца загараючыяся матэрыі, а таксама ў майстэрнях, якія даюць лёгка загараючыяся адкіды або пыл, агнятушыцелі павінны ўстанаўляцца незалежна ад знаходжаньня там пажарнага вадаправоду.

Агнятушыцелі павінны разьвешвацца на відных і прыступных месцах і быць забаронены ад пападаньня на іх будаўнічае рашчыны, атмасфэрных ападкаў і г. д.

9. Асьвятленьне на пабудовах павінна быць электрычнае з захаваньнем вызначаных правіл. Калі электрычнага асьвятленьня няма, дазваляецца асьвятленьне сьвечкамі ў мэталёвых ліхтарох з шклом, забароненым сеткамі, або газавае з мэталёвымі лямпамі ў зашклёных ліхтарох.

10. Ліхтары з лямпамі павінны быць устойлівымі і моцна прымацаванымі да сьцен, столяў або іншых нярухомых частак. Знаходзячыяся паблізу драўляныя часткі павінны быць ізаляваны ад награваньня праз абабіўку дрэва жалезам па азбэсту або лямцу, або азбэставым кардонам. Драўляныя часткі павінны знаходзіцца ад агня лямпы ня менш, чым на 70 сант. Над шклом лямпы павінен быць асобны мэталёвы каўпачок.

Абслугоўваньне лямпаў падлеткамі, а таксама разноска лямп па памяшканьнях запаленымі забараняецца. Падрыхтоўка лямп павінна праводзіцца ў асобным памяшканьні і асобамі, што для гэтага пастаўлены.

11. Печы і ачагі для ацяпленьня і прасушкі, кіпяцільнікі і інш. награвальныя прылады дазваляюцца для карыстаньня толькі пры захаваньні наступных захадаў перасьцярогі:

а) жалезныя або пераносныя мэталёвыя печы павінны мець ножкі вышынёю ня менш 25 с/м і знаходзіцца ад драўляных неатынкаваных частак будынку, рыштаваньняў і падмосткаў ня бліжэй 1 мтр. і ад атынкаваных або ababітых азбэстам або жалезам—ня бліжэй 50 с/м. і, калі падлогі з неагнятрывалых матарыялаў,—мець зьнізу жалезны ліст, які выходзіць ва ўсе бакі за край печы на 35 с/м., а перад дзьверцамі—на 45 с/м. або цагляны фундамант таўшчынёй ў 1 цэглу;

б) часовыя печы, пабудаваныя з цэглы, павінны мець сьценкі таўшчынёю ня менш паўцэглы, жалезныя зачыняючыяся дзьверцы і фундамант з пастаўленых кантам цэглін, з пакіданьнем паміж радамі іх праходаў для вольнага праходу паветры; ніз печы павінен быць выкладзен з 2-х радоў цэглы, якія ўкладваюцца плашмя ў перавязку; калі падлогі драўляныя—перад дзьверцамі печы павінен прыбівацца ліст разьмерам 45×35 с/м.;

в) жалезныя дымавыя трубы павінны разьмяшчацца ад загараючыхся атынкаваных або неатынкаваных частак будынку, рыштаваньняў і падмосткаў паводле паказанаму ў п. „а“; калі трубы гэтыя праводзяцца праз драўляныя часткі будынку, то павінна быць зроблена цагляная пракладка ня менш 25 с/м. таўшчынёю; калі трубы праводзяцца ў вокны або ў спэцыяльна зробленыя адтуліны ў знадворных сьценах, то канец трубы, які выходзіць на двор, павінен быць ня менш 70 с/м. даўжыні і мець калена ўверх.

12. Анучы, пакульле, баваўняныя канцы і інш. матарыялы для чысткі і абціраньня розных мэханізмаў, павінны захоўвацца ў мэталёвых зачыняючыхся скрынках.

13. Зьбіраць сьмецьце, якое лёгка загараецца (шчэпкі, стружкі, апілкі, паперу і г. д.) у будынках, што будуюцца, а таксама на рыштаваньнях забараняецца.

Усялякія адкіды і будаўнічае сьмецьце, небясьпечныя ў сэнсе пажару, павінны пэрыядычна выносіцца і вывозіцца як з рабочых памяшканьняў, так і з тэрыторыі будаўніцтва.

14. Захоўваць, хоць-бы і часова, у лесьвічных клетках і на вышках якія-небудзь прадметы або матарыялы, забараняецца, а таксама забараняецца адводзіць вышкі для рабочых памяшканьняў.

15. Курыць на тэрыторыі будаўнічых работ дазваляецца выключна ў мясцох, бясьпечных у сэнсе пажару, якія вызначаюцца загадчыкам пажарнай аховы будаўніцтва і дзе ставяцца бочкі з вадою для акуркаў. У тых мясцох, дзе курыць забаронена, павінны вывешвацца адпаведныя аншлагі да агульнага ведама.

16. Колькасьць страмянак і сходаў, калі ёсьць рыштаваньне і калі яго няма, павінна быць у такім разьмеры, каб ні адно рабочае месца ня было ад іх далей, чым на 40 мэтраў, прычым мінімальная колькасьць страмянак і сходаў павінна быць ня менш 2 на будынак.

17. Разводзіць адкрыты агонь у кастрох (варка смалы, асфальту, разаграваньне матарыялаў), у горнах і ўжываньне лямп для літаваньня дазваляецца толькі пры патрэбе выкананьня адпаведных будаўнічых работ і толькі з ведама выканаўцы работ і загадчыка пажарнай аховы, з прыняцьцем захадаў перасьцярогі паводле іх паказаньняў. Сушылкі і іншыя падобныя небясьпечныя у сэнсе пажару памяшканьні не павінны будавацца ўнутры будынкаў, а толькі ў асобных памяшканьнях воддаль ад тых будынкаў, што будуюцца.

18. Забараняецца захоўваць на тэрыторыі будаўніцтва нягашаную вапну адкрытай.

19. Захоўваць гаручыя вадкасьці, балоны з газамі, пакост, ляк, шпігінар і г. д. дазваляецца толькі ў бясьпечных у сэнсе пажару памяшканьнях, якія адводзяцца на належнай адлегласьці ад складаў лясных і лёгказагараючыхся матарыялаў, рыштаваньняў і будуючыхся будынкаў.

Тара, упакоўка, а таксама лямец, пакульле, анучы і інш. не павінны пакідацца на адкрытых мясцох, а павінны захоўвацца ў асобных памяшканьнях.

Часовыя будынкі і пабудаваньні, якія будуюцца на тэрыторыі будаўніцтва, павінны будавацца з захаваньнем правіл, што вызначаны мясцовымі абавязковымі пастановамі.

20. На пабудове павінна быць зроблена, па паказаньнях мясцовага органу дзяржаўнага пажарнага нагляду, для выкліку пажарнай каманды гукавая або іншая сыгналізацыя, а там, дзе гэта магчыма па мясцовых умовах, павінен устанаўляцца і ўключацца ў гарадзкую або мясцовую сетку тэлефонны апарат.

21. Выдаткі, што выклікаюцца паказанымі вышэй супроцьпажарнымі мерапрыемствамі, робяцца ў парадку і на падставах пастановы Камісіі па Будаўніцтву пры Савеце Працы і Абароны пра намэнклятуру выдаткаў па будаўніцтву, пра парадак іх налічэньня і падліку і пра гранічныя разьмеры гэтых выдаткаў.

22. Вінаватыя ў парушэньні гэтых правіл пра супроцьпажарныя мерапрыемствы на будаўнічых работах прыцягваюцца да адміністрацыйнай або судовай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара
Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль.*

Старшыня Камітэту па Будаўніцтву
пры Эканамічнай Нарадзе БССР *А. Гейнэ.*

17 кастрычніка 1929 г.

---

## 16. Абежнік Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР

### пра парадак выдачы пэнсій інвалідам вайны і сем'ям забітых на вайне на 1929/30 г.

1. Далучаныя да гэтага стаўкі пэнсіі інвалідам вайны і сем'ям забітых на вайне ўводзяцца ў дзейнасьць з 1 кастрычніка 1929 г.

2. Стаўкі пэнсіі ўстаноўлены для сямейных і несямейных інвалідаў.

3. Несямейнымі лічацца інваліды, у сям'і якіх няма непрацаздольных членаў сям'і, а калі і ёсьць, то гэтыя непрацаздольныя члены сям'і працуюць, альбо забясьпечваюцца сталай пэнсіяй або дапамогай ад іншых ведамстваў (страхкаса, дзіцячая камісія).

4. Сямейнымі лічацца інваліды ў сям'і якіх ёсьць:

а) дзеці, браты, сёстры да 16 год;

б) дзеці, браты і сёстры, якія дасягнулі 16 год і якія па страце працаздольнасьці аднесены да аднае з першых трох груп інваліднасьці;

в) непрацаздольныя бацькі і супруг, якія аднесены да аднае з першых трох груп інваліднасьці;

г) працаздольныя бацька, маці, жонка, сястра альбо брат, калі ў сям'і няма іншых асоб, якія маглі-б даглядаць за інвалідам 1-й, альбо 2-й групы, а таксама і яго дзяцьмі да 8 год веку.

Калі хто-небудзь з пералічаных непрацаздольных членаў сям'і працуе, альбо забясьпечваецца сталай пэнсіяй ці дапамогай ад іншых ведамстваў (страхкаса, дзіцячая камісія), то яны ў лік асоб, што падлягаюць забясьпечаньню, ня ўключаюцца.

Пад паняцьцем „сям'я“ разумеецца родна-працоўнае аб'яднаньне розных ступеняў радства, якія жывуць разам і вядуць адну гаспадарку або жывуць на агульныя сродкі.

5. Для атрыманьня сямейнай пэнсіі інвалід-пэнсіянэр павінен прадставіць:

а) мэтрычныя зьвесткі на непрацаздольных членаў сям'і;

б) на дарослых членаў сям'і павінны быць прадстаўлены дакумэнты аб аднясеньні іх па страце працаздольнасьці да аднае з першых трох груп інваліднасьці. Пасылаць на мэдабгляд дарослых, мужчын 55 год і жанчын 50 год, ня трэба, бо яны лічацца непрацаздольнымі;

в) даведку сельскага савету ў сельскіх мясцовасьцях, міліцыі або дамакіраўніцтва ў гарадох, аб тым, што асобы, на якіх просіцца сямейная пэнсія, сапраўды жывуць разам з інвалідам-пэнсіянэрам, нідзе не працуюць і не атрымліваюць ні пэнсіі ні сталай дапамогі ад іншых ведамстваў (страхкаса, дзіцячая камісія).

6. Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты і гарсаветы, каб яны растлумачылі пэнсіянэрам закон пра парадак выдачы пэнсій і ўжылі меры да хутчэйшага правядзеньня яго ў жыцьцё.

7. Сродкі, што дадзены для выдачы пэнсій новаму кантынгэнту пэнсіянэраў, скарыстаць у першую чаргу для выдачы пэнсій бяднейшай часткі інвалідаў грамадзянскай вайны, страціўшых працаздольнасьць, был. чырвоным партызанам і сем'ям забітых у грамадзянскую вайну і ў чырвоных партызанскіх атрадах.

*Дадатак:* копія пратаколу пасяджэньня СНК БССР за 16/Х 1929 г. № 24, п. 963.

Нам. Народнага Камісара
Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР *Адзінцоў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту
Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР *Коржуеў.*

22 кастрычніка 1929 г.
№ 9.

---

*Дадатак.*

Каму: НК Сацыяльнага Забясьпечаньня, Дзяржаўнай Плянавай Камісіі, НК Фінансаў, АВК, д/с.

## ВЫПІС

**з пратаколу пасяджэньня Савету Народных Камісараў Беларускае ССР за 16 кастрычніка 1929 г., № 24, п. 963.**

Разглядалі—Пастанавілі:

963. Пра стаўкі на 1929/30 г. пэнсіі інвалідам вайны і сем'ям забітых на вайне. Падае Дзяржаўная Плянавая Камісія. Дакл. т. Сьляпян.

**Інд. 351. 84/957.**

963. 1. Выходзячы з прадугледжанай кантрольнымі лічбамі на 1929/30 год сумы пэнсійнага фонду ў разьмеры 1.328 тыс. р., лічыць мэтазгодным устанавіць на 1929/30 г. наступныя месячныя стаўкі пэнсіі інвалідам вайны і сем'ям забітых на вайне:

| | Менск, Віцебск, Гомель | Інш. акруговыя гарады. | Інш. мясцовасьці. |
|---|---|---|---|
| **А. Інвалідам вайны:** | | | |
| **Адзінокім:** | | | |
| 1-я група . . . . . . . . | 27 | 25 | 22 |
| 2-я „ . . . . . . . . | 19 | 17 | 15 |
| 3-я „ . . . . . . . . | 12 | 11 | 10 |
| **Сямейным:** | | | |
| 1-я група: | | | |
| З 1-м непрацаздольн. утрыманцам . . | 27 | 25 | 22 |
| „ 2-ма „ „ . . | 29 | 27 | 23 |
| „ 3 і больш „ . . | 31 | 29 | 24 |
| 2-я група: | | | |
| З 1-м непрацаздольн. утрыманцам . . | 20 | 18 | 15 |
| „ 2-ма „ „ . . | 22 | 20 | 16 |
| „ 3 і больш „ . . | 24 | 22 | 17 |
| 3-я група: | | | |
| З 1-м непрацаздольн. утрыманцам . . | 15 | 14 | 12 |
| „ 2-ма „ „ . . | 17 | 16 | 13 |
| „ 3 і больш „ . . | 19 | 18 | 14 |
| **Б. Сем'ям забітых:** | | | |
| З 1-м членам сям'і . . . . . . | 9 | 7 | 6 |
| „ 2-ма „ „ . . . . . . . | 13 | 12 | 11 |
| „ 3 і больш „ . . . . . . . | 19 | 17 | 15 |

*Увага.* Інваліды вайны, у сям'і якіх няма непрацаздольных членаў сям'і, прыроўніваюцца да адзінокіх.

Арыгінал за належнымі подпісамі.

З арыгіналам згодна:

Сакратар Народнага Камісарыяту
Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР *Коржуеў.*

## 17. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР

**пра зьмену арт. арт. 13, 15 і 29 інструкцыі НКСЗ БССР за 20 красавіка 1927 г. № 2. „Аб парадку ажыцьцяўленьня палажэньня аб дзяржаўным забясьпечаньні непрацаздольных членаў сем'яў вайскоўцаў, інвалідаў вайны і некаторых іншых катэгорый асоб, нянздольных да працы“ (Бюл. СНК БССР 1927 г., № 11).**

Народны Камісарыят Сацыяльнага Забясьпечаньня БССР пастанаўляе:

1. П. 13 інструкцыі прыняць у наступнай рэдакцыі:

„13. Інвалідам вайны, што жывуць у сельскіх мясцовасьцях і маюць гаспадарку, аднесеным па страце працаздольнасьці да аднае з першых трох груп інваліднасьці, пэнсія даецца ў залежнасьці ад гадовага прыбытку, а іменна:

а) поўная пэнсія даецца, калі гаспадарка цалкам вызвалена ад сельска-гаспадарчага падатку;

б) палова пэнсіі даецца, калі абкладаемы прыбытак аднаго члена сям'і не перавышае 65 руб., а прыбытак гаспадаркі з 4-ма і больш членамі сям'і не перавышае 300 руб. у год і гаспадарка гэта карыстаецца льготамі па сельска-гаспадарчаму падатку“.

2. П. 15 інструкцыі прыняць у наступнай рэдакцыі:

„15. Інвалідам, якія знаходзяцца ў дамох зьняволеньня да суда альбо адбываюць кару, пэнсія не даецца ўвесь час знаходжаньня ў дамох зьняволеньня, адбываньня кары і высылкі.

Інваліды, якія будуць па суду апраўданы, маюць права атрымаць пэнсію за ўвесь час знаходжаньня ў месцы зьняволеньня“.

3. П. 29 інструкцыі прыняць у наступнай рэдакцыі:

„29. Сем'ям асоб, што паказаны ў арт. 26 гэтай інструкцыі, якія жывуць у сельскіх мясцовасьцях і маюць сельскую гаспадарку, пэнсія выдаецца ў залежнасьці ад гадовага прыбытку гаспадаркі; поўная пэнсія даецца, калі гаспадарка цалкам вызвалена ад сельска-гаспадарчага падатку; палова пэнсіі даецца, калі абкладаемы прыбытак аднаго члена сям'і не перавышае 65 рублёў, а прыбытак гаспадаркі з 4-ма і больш членамі сям'і не перавышае 300 рублёў у год і гаспадарка гэта карыстаецца льготай па сельска-гаспадарчаму падатку“.

Нам. Народнага Камісара Сацыяльнага
Забясьпечаньня БССР *Адзінцоў.*

Сакратар Народнага Камісарыяту Сацыяльнага
Забясьпечаньня БССР *А. Коржуеў.*

25 кастрычніка 1929 г.
№ 3.

## 18. Правілы

### пра зьбіраньне і апублікаваньне справачных цэн па будаўніцтву.

Паводле пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 7 жніўня 1929 г. (прат. СНК БССР № 13, п. 532) Камітэт па Будаўніцтву пры Эканамічнай Нарадзе БССР устанаўляе ніжэйнаступныя правілы пра зьбіраньне і апублікаваньне справачных цэн па будаўніцтву:

1. Для кіраваньня пры складаньні дзяржпрадпрыемствамі і ўстановамі каштарысаў і расцэначных ведамасьцяй на будаўнічыя работы рознага віду, Камітэт па Будаўніцтву пры Эканам. Нарадзе БССР выпрацоўвае і публікуе на кожную палову каляндарнага году 1 студзеня і 1 ліпеня справачныя цэны на кваліфікаваную рабочую сілу, будаўнічыя матарыялы і перавозачныя сродкі (гужавы транспарт).

Цэны на рабсілу, што публікуюцца, не зьяўляюцца абавязковымі пры ўстанаўленьні разьмеру заработнай платы будаўнічым рабочым.

2. Справачныя цэны зьбіраюцца тыя, што фактычна існуюць па акругах, і выдаюцца як асобныя даведнікі, з паказаньнем: падзённых цэн на рабочыя рукі па кваліфікацыях, цэн на матарыялы, а таксама цэн на гужавую перавозку матарыялаў дзяржаўным і прыватным транспартам.

Справачныя цэны на рабочую сілу павінны ўзгадняцца з НК Працы і Ц. П. Саюзу Будаўнікоў, а на матарыялы і гужавы транспарт—з НК Гандлю.

3. Цана на рабочыя рукі, паводле вызначаемай Камітэтам па Будаўніцтву намэнклятуры па розных спэцыяльнасьцях вытворчасьці, паказваецца падзённая з разьліку выкананьня ў рабочы дзень колькасьці работы, паводле норм Урочнага Палажэньня, з унесенымі ў апошнія папраўкамі СПА.

4. У Камітэт па Будаўніцтву павінны быць паданы пералічанымі ніжэй установамі, не пазьней як за 2 тыдні да сканчэньня тэрміну дзейнасьці апублікаваных справачных цэн, наступныя зьвесткі:

*А. Па рабочай сіле:*

а) Органамі Акруговага Будаўнічага Кантролю—зьвесткі аб існуючых стаўках на рабочую сілу на будаўнічым рынку, якія атрымоўваюцца як ад вытворцаў работ асобных будаўніцтваў, так і ад мясцовых арганізацый Прафсаюзу Будаўнікоў,—з дадаткам адпаведных выпісак з дзейных калдагавароў, і

б) будаўнічымі арганізацыямі, дзейнічаючымі на тэрыторыі БССР—зьвесткі аб фактычных цэнах на рабочыя рукі, з дадаткам тлумачэньняў у выпадку разыходжаньня фактычных цэн з цэнамі, устаноўленымі па калдагаварох.

*Б. Па будаўнічых матарыялах:*

а) Органамі Акруговага Будаўнічага Кантролю—выяўленыя сумесна з органамі НК Гандлю на мясцох зьвесткі аб цэнах на будаўнічыя матарыялы па крыніцах снабжэньня: ад трэстаў, сындыкатаў і капэрацыі—на бліжэйшых складах, і завадзкія і загатоўчыя цэны—для матарыялаў мясцовага пахаджэньня, і

б) НК Гандлю БССР—зьвесткі аб устаноўленых ім цэнах на будаўнічыя матарыялы для гандлюючых арганізацый.

*Увага.* Цэны на будаўнічыя матарыялы, паводле ўстаноўленай Камітэтам па Будаўніцтву намэнклятуры па асобных галінах прамысловасьці, вызначаюцца па катэгорыях: гуртавыя, паўгуртавыя і розьнічныя.

*В. Па транспарту будаўнічых матарыялаў:*

Дзейнічаючымі ў БССР будаўнічымі арганізацыямі і органамі Будаўнічага Кантролю—зьвесткі аб фактычых цэнах на гужавы транспарт па роду яго, на тонна-кілёмэтр і на падзённы кошт адзіночнай і парнай падводы.

Старшыня Камітэту па Будаўніцтву пры Эканамічнай Нарадзе БССР *А. Гейнэ.*

Сакратар *М. Сецко.*

5 кастрычніка 1929 г.

---

## 19. Тлумачэньне Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра адказнасьць за пераманьваньне работнікаў з аднаго прадпрыемства альбо ўстановы ў другое.

У сувязі з тым, што за апошні час наглядаецца шэраг выпадкаў пераманьваньня работнікаў з аднаго прадпрыемства альбо ўстановы ў другое, з вызначэньнем большай заработнай платы, што ўтварае ажыятаж на рынку працы і парушае нармальную тарыфную палітыку, Народны Камісарыят Працы БССР папярэджвае, што кіраўнікі ўстаноў і прадпрыемстваў, віноўныя ў гэтых учынках, будуць прыцягвацца да адказнасьці.

Народны Камісарыят Працы БССР просіць аб усіх паказаных фактах сваячасова паведамляць мясцовыя органы Н.К. Працы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

24 кастрычніка 1929 г.

---

## 20. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Земляробства

### пра ахову праўнага становішча вайскоўцаў-калгасьнікаў.

*Органам пракуратуры і суда і зямельным камісіям.*

Наглядаецца, што ў некаторых выпадках каляктыўнымі гаспадаркамі (сельска-гаспадарчыя арцелі і камуны) парушаюцца правы вайскоўцаў—членаў гэтых гаспадарак, як у сэнсе недапушчэньня іх да звароту ў каляктыўныя гаспадаркі пасьля адбыцьця вайсковай службы, так і ў сэнсе парушэньня праў членаў іх сем'яў, якія застаюцца ў калгасах у час праходжаньня вайскоўцамі-калгасьнікамі вайсковай службы.

Між тым, паводле арт. 16 Зямельнага Кодэксу, члены сельска-гаспадарчых арцеляў і камун, таксама як і члены іншых сельскіх гаспадарак, не павінны лічыцца выбыўшымі з сваіх гаспадарак у час праходжаньня імі абавязковай вайсковай службы, аб чым, між іншым, у адносінах да членаў камун, дакладна паказана ў § 12 „Тыповага статуту сельска-гаспадарчых камун“, зацьверджанага Эканомнарадай пры СНК БССР 11 чэрвеня 1928 году (Бюл. СНК БССР 1928 г., № 8, стар. 17). У адпаведнасьці з гэтым, члены сем'яў вайскоўцаў-калгасьнікаў у час знаходжаньня апошніх на вайсковай службе павінны карыстацца ў каляктыўных гаспадарках усімі тымі правамі, якімі карыстаюцца члены сем'яў іншых калгасьнікаў, паводле статутаў адпаведных каляктыўных гаспадарак. У прыватнасьці, трэба мець на ўвазе

непрацаздольных членаў сем'яў вайскоўцаў-калгасьнікаў, дзяцей і інвалідаў, якія, паводле § § 37-х „Тыповых статутаў" сельска-гаспадарчых арцеляў і камун (Бюл. СНК БССР 1928 г. № 8, стар. 12-13 і 22), павінны ўтрымоўвацца каляктыўнымі гаспадаркамі паводле правіл, выкладзеных у гэтых параграфах.

Таму і ў адпаведнасьці з інструкцыяй СНК БССР аб ужываньні Кодэксу аб льготах вайскоўцам (З. З. БССР 1926 г. № 15, арт. 56) прапануецца наступнае:

1) Органам Пракуратуры ўзмацніць нагляд за захаваньнем каляктыўнымі гаспадаркамі (сельска-гаспадарчымі арцелямі і камунамі) праў вайскоўцаў—членаў гэтых гаспадарак, а таксама і іх сем'яў, прыцягваючы службовых асоб, якія не зрабілі адпаведных захадаў да абароны паказаных праў альбо парушылі іх, да належнай адказнасьці і прымаючы ўсе неабходныя захады да абароны азначаных праў ва ўстаноўленым законам парадку.

2) Судовым і зямельным органам пры разглядзе спраў строга захоўваць інтарэсы вайскоўцаў-калгасьнікаў і членаў іх сем'яў, кіруючыся выкладзенымі вышэй паказаньнямі і разглядаючы справы вайскоўцаў-калгасьнікаў у тэрміновым парадку.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *П. Валасевіч.*

Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

18 кастрычніка 1929 г.
№ 73.

---

## 21. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР пра арганізацыю паляўнічага заказьніка ў Клясьціцкім і Юхавіцкім лясьніцтвах Полацкай акругі.

Паводле дырэктывы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 17 чэрвеня 1929 г., Народны Камісарыят Земляробства БССР пастанаўляе:

Арганізаваць паляўнічы заказьнік тэрмінам на 5 год, з 15 кастрычніка 1929 г. да 15 кастрычніка 1934 г., у паўночна-усходняй частцы Якубаўскай дачы, Клясьціцкага лясьніцтва, Полацкай акругі на плошчы 3548,9 га і сумежнай частцы Шадурскай дачы Юхавіцкага лясьніцтва на плошчы 1904 га, а ўсяго на агульнай плошчы—5452,9 га ў наступных межах:

Па Якубаўскай дачы Клясьціцкага лясьніцтва кв. кв. № № 1, 2, 3, 8, 9, 10, 11, 17, 18, 20, 28, 29, 30, 36, 42, 43, 44, 45, 46, 54, 55, 56, 57, 58, 66, 67, 68, 69, 77 і 78; па Шадурскай дачы Юхавіцкага лясьніцтва кв. кв. №№ 80, 81, 82, 83, 95, 96, 97, 109, 110 і 120.

Запрапанаваць Полацкаму Акруговаму Зямельнаму Аддзелу ўжыць захады да належнага вызначэньня ў натуры межаў заказьніку і аховы яго паводле абежніку НКЗ БССР за 1929 г. № 10.

Народны Камісар Земляробства БССР *П. Рачыцкі.*

За Загадчыка Ляснога Кіраўніцтва НКЗ БССР *П. Філатаў.*

Інспэктар Лесаэксплёатацыі *Дзярыба.*

15 кастрычніка 1929 г.

## 22. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР про арганізацыю загатоўкі канаплянага насеньня на 1929/30 г.

1. Устанавіць плян загатовак канаплянага насеньня на 1929/30 г. у колькасьці 750 тон.

2. Тэрміны выкананьня пляну ўстанавіць:

I квартал (кастрычнік—сьнежань)—60%
II „ (студзень—сакавік) —40%

3. Загатоўшчыкамі канаплянага насеньня зацьвердзіць:

| | | |
|---|---|---|
| Белсельсаюз | — 40% | — 300 тон, |
| Белкаапсаюз | — 40% | — 300 „ |
| Белдзяржгандаль | — 20% | — 150 „ |
| | 100% | — 750 тон. |

4. Плян загатовак канаплянага насеньня па акругах зацьвердзіць:

| | | |
|---|---|---|
| Магілёўская | — 50% | — 375 тон, |
| Аршанская | — 30% | — 225 „ |
| Гомельская | — 15% | — 110 „ |
| Бабруйская | — 5% | — 40 „ |
| | 100% | — 750 тон. |

5. Для астатніх акруг, з прычыны нязначнай іх таварнасьці, пляны загатовак канаплянага насеньня не вызначаюцца.

Абавязаць акруговых інспэктароў гандлю і асноўных загатоўшчыкаў канаплянага насеньня весьці загатоўку вывозімага сялянствам на рынак канаплянага насеньня з такім разьлікам, каб усё прадаваемае сялянствам канаплянае насеньне было зьнята дзяржаўнымі і каперацыйнымі арганізацыямі.

6. Для забясьпечаньня пасеўным матарыялам намечанай да кантрактацыі плошчы пасеваў канапель вясной 1930 г. абавязаць загатоўшчыкаў усё загатоўленае канаплянае насеньне браніраваць для пасеўных мэтаў.

7. Устанавіць на пасеўнае канаплянае насеньне загатоўчыя цэны:

а) 14 кап. за цэнтнер—процант чыстаты, альбо 13 р. 16 к. за цэнтнер 94% чыстаты;

б) у сумежных з РСФСР раёнах у радыусе 20 км.—12 кап. за цэнт.—процант чыстаты, альбо 11 р. 28 к. за цэнтнер 94% чыстаты;

в) у сумежных з УССР раёнах у такім-жа радыусе ўстанавіць 11, 8 к. за цэнтнер—процант. чыстаты, альбо 11 р. 09 к. за цэнтнер 94% чыстаты.

Народны Камісар Гандлю БССР *К. Бэнэк.*

Сакратар НКГ БССР *Г. Паплаўскі.*

20 кастрычніка 1929 г.
№ 55.

## 23. Загад па Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі БССР

**пра абвяшчэньне загаду ВСНГ СССР за 10 ліпеня 1929 г. „Пра зьмену таксы збораў за праверку і кляйменьне мерак і вагаў“.**

Ніжэй гэтага абвяшчаецца да ведама загад па ВСНГ СССР за 10 ліпеня 1929 г. № 959 (Зб. пастаноў і загадаў па Прамысловасьці, выпуск № 24, 1—10 ліпеня 1928/1929 г.) аб зьменах таксы збораў за праверку і кляйменьне мерак і вагаў.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР *Баль.*

Сакратар ВСНГ БССР *А. Лучышын.*

3 кастрычніка 1929 г.
№ 4.

---

*Дадатак.*

Загад ВСНГ СССР за 10 ліпеня 1929 г. № 959.

Пры гэтым абвяшчаецца да ведама і кіраўніцтва пастанова Прэзыдыуму ВСНГ СССР за 4 ліпеня г. г. (п. № 24), узгодненая з НКФ СССР „Аб зьмене і дапаўненьні пастановы СПА за 23 сакавіка 1929 г. аб таксах збораў паверачных палат за паверку і кляйменьне мер і вагаў (С. З. 1925 г. № 25, арт. 175)“.

З увядзеньнем у чыннасьць гэтае пастановы лічыць нячыннай увагу да § 3 загаду па ВСНГ СССР за 19 мая 1927 г. № 770 (Зб. загадаў за 1926-27 г., выпуск 16).

ВСНГ саюзных рэспублік выдаць адпаведныя загады.

Дадатак: Пастанова.

За Старшыню ВСНГ СССР *Манцаў.*

В. аб. Адк. Сакр. Прэзыдыуму ВСНГ СССР *Фролаў.*

(Зб. пастаноў і загадаў па Прамысловасьці, вып. № 24, ліпень 1-10—1928/29 г.).

Да № 959.

Пастанова, узгодненая з НКФ СССР і зацьверджаная ад імя Прэзыдыуму ВСНГ СССР т. Рухімовічам.

„Аб зьмене і дапаўненьні правіл за 23 сакавіка 1925 г. аб спагнаньні праверачнымі палатамі збораў за праверку і кляйменьне мер і вагаў (С. З. 1925 г. № 25, арт. 175).

На падставе ўвагі да арт. 3 пастановы ЦВК і СНК СССР за 29 кастрычніка 1927 г. (С. З. 1927 г. № 62, арт. 636), выкласьці правілы аб спагнаньні збораў за паверку мер і вагаў у наступнай рэдакцыі:

„7. Правілы аб спагнаньні збораў за паверку ў Паверачнай Палаце і па-за Палатай:

а) За паверку і кляйменьне мер, вагаў і вымеральных і кантрольных прыбораў зборы ўносяцца плацельшчыкамі ў касы паверачных установ пад квіткі пры заяве, адначасова з прадстаўленьнем прыладаў для паверкі.

*Увага.* У выпадку адмовы паверачнай установы ад кляйменьня прыладаў, неадпаведнасьці іх да правілаў, а таксама ў выпадку непрадстаўленьня да паверкі прыладаў, паказаных у заяве, унесеныя зборы звароту не падлягаюць.

б) Пры прыёме паказанай у літ. „а“ заявы праверачныя ўстановы абавязаны праверыць правільнасьць уплаты прылічваючыхся збораў

і ў выпадку выяўленьня, няпоўнай уплаты іх, ніякае чыннасьці па праверцы не вытвараць да дадатковага ўносу належнай сумы.

в) Пры ўсялякім выкліку правярыцеляў з праверачных установаў для праверкі і кляйменьня мер, вагаў і інш. вымеральных і кантрольных прыладаў на мейсцы іх знаходжаньня ў мяжы гораду, установа, альбо асоба, што выклікае, звыш прылічваючыхся за праверку збораў, павінна ўплаціць два рублі за выклік і зьвярнуць страты па сапраўднаму кошту выдаткаў па праезду правярыцеля і па правозу кантрольных прыбораў у абодвы канцы.

Пры выкліку правярыцеля за межы гораду, выклікаючыя ўстановы і асобы павінны, апроч прадугледжаных зваротаў і аплаты выдаткаў, аплаціць таксама камандыровачныя выдаткі ў парадку і па нормах чынных законаў пра службовыя камандыроўкі.

На абавязнасьці выклікаючага ляжыць таксама адвод адпаведнага памяшканьня для праверкі і хаваньня кантрольных прыладаў.

*Увага.* Пры выкліку правярыцеляў для праверкі і кляйменьня мер і вагаў, належачых чыгункам, апошнія аслабаняюцца ад уплаты як 2 руб. за выклік, таксама ад аплаты сутачных за час знаходжаньня правярыцеля ў камандыроўцы. Сутачныя ў гэтым выпадку аплачваюцца праверачнымі ўстановамі.

г) Паступаючыя за праверку і кляйменьне зборы, а таксама сумы, што спаганяюцца за выклік правярыцеляў, павінны поўнасьцю здавацца праверачнымі палатамі і іх аддзяленьнямі ва ўстановы Дзяржбанку парадкам, выкладзеным ў арт. 89 касавых правіл, зацьверджаных НКФ СССР і Дзяржбанкам 10-га верасьня 1928 г. (апублік. у дадатку да № 50 „Извест. НКФ СССР“ за 13 верасьня 1928 г.). Установы Дзяржбанку з агульнай сумы паступленьняў залічаюць 90% па § 21, арт. 12 даходнага каштарысу ВСНГ СССР і 10% па § 21, арт. 12 даходнага каштарысу ВСНГ СССР.

д) Гэтая пастанова набывае сілу з дня апублікаваньня, за выключэньнем зьмен, прадугледжаных пунктам „в“, якія набываюць сілу з 31 кастрычніка 1929 г.

---

Час. вык. аб. Адказнага Рэдактара С. Лодысеў.